PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (2124) Год XLII Беласток 26 студзеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Калядоўшчыкі з Орлі: Лявон, Юліта і Павел Леўчукі.* Фота Міхала Мінцэвіча

Алег Латышонак

## Тэлебачанне на памежжы

9 студзеня 1997 г. у сядзібе Беластоцкага асяродка тэлебачання адбылася дыскусія пра ролю тэлебачання на памежжы. У нарадах прынялі ўдзел прадстаўнікі навукі, культуры, сродкаў масавай інфармацыі і дзеячы нацыянальных арганізацый.

Дырэктар асяродка Казімеж Пуцілоўскі паведаміў прысутным, што рэгіянальнае тэлебачанне пачне перадавацца на раздзельнай паласе другой праграмы TVP з лютага, а сапраўды самастойнай праграмы на „тройцы" можна чакаць не раней, як у палове года.

Затым выступілі з дакладамі тры прафесары з Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Сацыёлаг Анджэй Садоўскі выказаў надзею, што канчаецца час палітыкі асіміляцыі і падыходзіць час палітыкі шматкультурнасці. Паказаў дамінуючую ролю пальшчызны ва ўсім рэгіёне, ды культурную і рэлігійную разнастайнасць. Паводле праф. Садоўскага, сярод пераходных груп, такіх як беларусы-каталікі і праваслаўныя-палякі, ёсць і беларуса-ўкраінцы.

Педагог Ежы Нікітаровіч, які ўзначальвае кафедру міжкультурнай адукацыі, прыпомніў лозунг кітайскай культурнай рэвалюцыі „Няхай цвіце тысяча (або сто) кветак" і сцвердзіў, што тэлебачанне павінна служыць абмену вартасцямі і дбаць аб супольнай культурнай спадчыне. Заклікаў таксама надаць вышэйшы ранг рэгіянальнай адукацыі.

Гісторык Уладыслаў Анджэй Сэрчык заўважыў, што было б мала рацыянальным глядзець на БАТ з пункту гледжання нацыянальных меншасцей. У сувязі з тым выказаўся супраць асобных нацыянальных і рэлігійных рамак у тэлебачанні. Прыпомніў таксама, што на памежжы сплыло многа крыві, і гэта трэба паказаць, толькі не так, каб заахвочваць да помсты, але каб звярнуць увагу на тое, якія ўсе мы былі дурныя.

Першы з дыскутантаў, Сакрат Яновіч, сцвердзіў

[працяг ☞ 4]

Мікола Ваўранюк

## Абеларушаны амерыканец

Некалькі гадоў таму з'явіўся ён на парозе нашай рэдакцыі і з выразным менскім акцэнтам сказаў: „Добры дзень. Я — Курт Вулгайзер". Прозвішча падалося, як на беларуса, надзвычай рэдкае. Толькі ў пазнейшай гутарцы высветлілася, што Курт ніякі не беларус, а самы сапраўдны амерыканец, прычым, нават без якіх-небудзь славянскіх каранёў.

Нарадзіўся ён на праўдзівым Дзікім захадзе — у гарыстым, суровым штаце Каларада. Адны далёкія продкі прыехалі ў Амерыку з Нарвегіі, іншыя — з Нямеччыны. Пра Беларусь, пэўна, ніколі і не чулі. Адкуль, затым, у іхняга амерыканскага патомка зацікаўленне такой экзатычнай краінай і яе мовай, якой ведаць не хочуць самі аўтахтоны гэтай зямлі?

Шпіён — сказалі б у нас у зусім недалёкім мінулым. І як ні дзіўна, у адным мелі б рацыю — Куртава зацікаўленне Беларуссю пачалося з палітыкі. Са ступенню бакалаўра паступіў ён ва Універсітэт штата Індыяна, каб вывучаць палітычныя навукі. Хацеў стаць дыпламатам, спецыялістам па справах Усходняй Еўропы. А дзе праходзіць мяжа між дыпламатыяй і шпіёнствам, часамі не ведаюць нават тыя, што гэтым займаюцца.

У нашым выпадку, аднак, такога тыпу разважанні беспрадметныя, бо Курт ужо на першым курсе так захапіўся філалогіяй, што зусім забыўся на магчымасць прэстыжнай дыпламатычнай кар'еры. Паколькі, аднак, вывучэнне расейскае ці польскае моў у амерыканскіх універсітэтах мае свае традыцыі, дык з беларускай — не так і лёгка. На шчасце, Курту паведамілі, што ва універсітэцкай бібліятэцы працуе беларус Палікарп Манькоў, які і стаў яго першым настаўнікам мовы. (У Індыянскім універсітэце раней працаваў іншы беларус — эміграцыйны гісторык Іван Любачка.)

Зацікаўленне беларускай мовай, культурай — як часта бывае ў маладых студэнтаў — у Курта не было хвілінным. У пачатку 1990-х гадоў праводзіць ён год у Менску. Прычым набывае не толькі чыста універсітэцка-падручнікавыя веды, але і ездзіць тады ў экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі, знаёміцца з людзьмі навукі і культуры. Завязвае сяброўства з многімі маладымі незалежнікамі, або, як іх тады называлі, нефармаламі.

Нашу рэдакцыю першы раз наведаў ён у 1992 годзе, калі вяртаўся з летняй школы беларусістаў. Пісаў ён ужо тады доктарскую дысертацыю пра дыялекты беларуска-польскага моўнага памежжа і хацеў перагледзець спецыялістычную літаратуру ў польскіх бібліятэках.

Курт Вулгайзер належыць да тых навукоўцаў, якія заглыбляюцца ў прадмет свайго вывучэння да самых каранёў. Калі ён пазнае мову, дык старанна і ўсебакова, разам з гісторыяй, культурнай спецыфікай, у цэлым багацці дыялектаў. Прытым усім, як часта бывае з апантанымі сваёй працай навукоўцамі, яго зацікаўленні не зводзяцца выключна да таго, што даследуе. Яго захапляе арыгінальная фальклорная музыка, цікавяць мясцовыя звычаі і абрады, кухня. Як чалавек з глыбокімі веда-

[працяг ☞ 5]

# Мы прачыталі

*Rocznie przepijamy dwa i pół miliarda dolarów. Aż 13 procent wódki całego świata wypija się w Polsce. Koło tych pieniędzy kręci się sporo grup nacisku, które mają interes, aby produkcja spirytualiów nie zaczęła maleć. Łapę na kasie trzyma fiskus. 75 procent wartości sprzedaży wódki stanowi akcyza i VAT. Gdybyśmy od nowego roku popadli w abstynencję, minister finansów zacząłby rwać włosy z głowy — z budżetu ubyłoby 6 procent dochodów, jakie płyną z podatków od alkoholi. Budżet państwa stoi na wódce. Nic dziwnego, że tę branżę nazwano strategiczną i o kierunkach jej rozwoju będzie decydować rząd. W ubiegłym roku średnia płaca w Polmosach wynosiła 170 proc. średniej krajowej, a zarobki miesięczne dyrektorów daleko przekroczyły 100 milionów złotych.*

Polityka, nr 1

* * *

*Działacze polscy, katolicy białoruscy zapraszają do siebie katolika Szuszkiewicza i katolika Paźniaka i popierają ich dążenia do władzy, natomiast większość prawosławnych sympatyzuje z sugestywnym Łukaszenką (oglądanym w białoruskiej telewizji), który jeździ do prawosławnej Rosji.*

*

*Jestem prawosławnym, białoruskiego pochodzenia (nie żaden fanatyk religijny i nie nacjonalista). Moim zdaniem, nasze środki masowego przekazu nagłaśniają temat rzekomej dyktatury prezydenta Łukaszenki, nie z powodu rozwiązania parlamentu, ale z powodu generalnej zmiany w polityce Białorusi. Faktycznie Łukaszenko wprowadził i zatwierdził nową konstytucję, którą nasza opozycja ocenia jako niedemokratyczną, chociaż merytorycznej dyskusji na jej temat w prasie nie czytałem.*

*

*Demokracja jest wtedy gdy wszystkim ona odpowiada. Takiej demokracji w historii, jak i współcześnie, nigdy nie było i nie będzie. Dlatego dyskusja o demokracji Łukaszenki na Białorusi nie ma sensu,* — пішуць праваслаўныя чытачы штодзёнкі

Kurier Poranny, nr 3

Мы не сумняваліся ніколі, што гаспадзін Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка перамог бы на Беласточчыне ў кожных выбарах, калі б меў нагоду быць тут кандыдатам у якую-небудзь установу.

* * *

*Прэзідэнт Лукашэнка падтрымлівае таленавітую моладзь,* — піша прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 295 (1996 г.)*

У гэтым таксама ніхто ў свеце не сумняваецца. Асабліва шыкарна прэзентуецца моладзь у радах АМОНа і спецназа на вуліцах Мінска падчас дэманстрацый менш таленавітай моладзі, студэнтаў сталічнага універсітэта.

* * *

*10 lat temu, w przededniu pieriestrojki uważano, że ZSRR to druga na świecie potęga gospodarcza. A przecież to mit. Gospodarka radziecka nigdy nie była wymierna. Była odcięta od konkurencji i właściwie nieporównywalna. Mit o drugiej potędze podtrzymywały propagandowo dobrane liczby o produkcji stali, cementu, abstrakcyjnych par obuwia i kilometrów tkanin. Na co jednak szła ta stal i ten cement, jakim kosztem je wytwarzano, jaką odzież otrzymywano z tych tkanin? Jakość, koszty produkcji, wskaźniki — te pojęcia w socjalizmie nie istniały. Gospodarka ta pracowała nie dla społeczeństwa lecz wyłącznie dla państwa. Lwią część gospodarki radzieckiej stanowił przemysł zbrojeniowy, który był symbolem bezsensownego samopożerania. Po co obecnie są potrzebne w Rosji fabryki obuwia? Żeby robotnicy mogli tam pracować, otrzymywać pensje i kupić sobie obuwie z importu. Nikt przy zdrowych zmysłach nie kupuje rodzimych trampków czy kaloszy. Chyba, że należałoby oddzielić kraj od reszty świata żelazną kurtyną. Realny komunizm okazał się nie drugim światem lecz antyświatem. W ciągu 8 dziesięcioleci realnego komunizmu ZSRR osiągnął wielki antypostęp.*

Polityka, nr 1

* * *

*Marszałek Senatu Adam Struzik odwiedził więcej krajów niż papież. Obdarowuje gospodarzy strojami ludowymi. Ostatnio prostował oszczerstwa prasy, że cesarza Japonii ubrał w strój kurpiowski, podczas gdy był to komplet łowicki. Krytykę swych podróży nazywa podrywaniem autorytetu Senatu i godzeniem w polską rację stanu.*

Wprost, nr 1

* * *

*Demokracja nie jest czarna, biała ani czerwona. Jest targowiskiem pasji i interesów, zmieszaniem grzechu z cnotą, świętości z łajdactwem. Jej wartość i smak poznaje się najlepiej, gdy już przegrywa pod naporem idei totalitarnych.*

*Komunizm był formą zamrażalnika. Wielobarwny świat napięć i wartości, emocji i konfliktów został pokryty grubą warstwą lodu. Proces rozmrażania następował stopniowo: najpierw ujrzeliśmy piękne kwiaty; później błoto i ohydne szumowiny.*

*Demokracja nie jest tożsama z wolnością; demokracja to wolność wpisana w reguły prawa. Wolność sama w sobie — bez ograniczeń nałożonych przez prawo i tradycję — to droga do chaosu, gdzie rządzi prawo silniejszego. Porządek demokratyczny jest światem niedoskonałym. Światem wolności — grzesznej, skorumpowanej, kruchej ale jest także alternatywą dla totalitarnego świata konieczności,* — піша Адам Міхнік.

Gazeta Wyborcza, nr 3

# З мінулага тыдня

**Сямён Шарэцкі** — старшыня звержанага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якому раней двойчы не ўдалося выехаць з Беларусі, урэшце змог па запрашэнні маршалка Сейма **Юзэфа Зыха** наведаць Варшаву. У Сейме сустрэўся ён з пасламі польска-беларускай парламенцкай групы. Пасля размовы са старшынёй ВС маршалак Зых сказаў, што падчас сустрэч з прадстаўнікамі парламентаў дзяржаў Еўрапейскага Саюза і НАТО будзе ён прадстаўляць сітуацыю ў Беларусі, накрэсленую яму Шарэцкім. Старшыня ліквідаванага прэзідэнтам Лукашэнкам беларускага парламента падзякаваў Польшчы — ейнаму прэзідэнту і маршалку Сейма — за падтрымку, аказаную беларускаму парламентарызму ў цяжкі час. Шарэцкі праінфармаваў таксама, што Камітэт абароны дэмакратыі, якому ён старшынствуе і ў якога састаў уваходзяць аграрная, камуністычная, грамадзянская ды сацыял-дэмакратычная партыі і Беларускі народны фронт, неўзабаве пераўтворыцца ў партыю Дэмакратычная Беларусь.

**CBOS** — Цэнтр даследаванняў грамадскай думкі — паведаміў, што 94% апытаных лічаць, што ўлады любой краіны павінны прытрымоўвацца правоў чалавека і кіравацца прынцыпамі, якія абавязваюць ва ўсім дэмакратычным свеце. Аднак толькі 29% рэспандэнтаў мяркуюць, што ў выпадку парушэння гэтых прынцыпаў у адной з суседніх краін Польшча павінна абмежаваць з ёю адносіны і падтрымоўваць прыхільнікаў дэмакратыі. У апытанні наконт стаўлення Польшчы да Беларусі 37% рэспандэнтаў выказалася за падтрымкай беларускай апазіцыі, а 25% палічыла, што палякі не павінны займацца гэтай справай. 26% апытаных мяркуе, што Польшча павінна падтрымоўваць добрыя кантакты з Беларуссю з прычыны непасрэднага суседства. Падтрымку беларускай апазіцыі дэкларавала большасць прыхільнікаў Уніі вольнасці, Акцыі выбарчай „Салідарнасць" і РОП. Сімпатыкі СЛД аддавалі перавагу добрым адносінам з Беларуссю.

**Выстаўку-агляд праваслаўных калядных *гвяздаў*** сарганізавала ў Беластоку Свята-Мікалаеўскае царкоўнае брацтва. У аглядзе ўдзельнічала дзесяць *гвяздаў* з Беластока, Рыбалаў, Орлі, Мякішаў, Ягуштова і Крывятыч. Самая старая *гвязда* налічвае амаль сто гадоў, а самая вялікая — 1,5 м у дыяметры.

**Праваслаўны цэнтр міласэрнасці** сарганізаваў у душпастырскім цэнтры Свята-Духавай царквы ў Беластоку калядную вечарыну для пяцідзесяці дзяцей армянскіх мігрантаў. Дзеці мелі нагоду паслухаць калядак у выкананні дзявочага хору пад кіраўніцтвам **Алы Дубэц**. Малыя армяне таксама энтузіястычна сустрэлі Мікалая з падарункамі.

**Амаль 10 тысяч вучняў** падстаўловых школ Беластоцкага ваяводства (на агульны лік 100 тысяч) карыстаюцца дармовым харчаваннем у рамках агульнапольскай акцыі падкормлівання вучняў. Гэтая акцыя праводзіцца на сродкі дзяржаўнага бюджэту. У гэтым школьным годзе гміны не атрымалі дзяржаўнай датацыі і вымушаны падкормліваць сацыяльна незабяспечаных дзяцей за кошт уласных сродкаў. Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі абяцае перадаць гмінам грошы ў пазнейшым тэрміне, а менавіта пасля зацвярджэння бюджэту на гэты год.

**Зімнія канікулы** для вучняў пачатковых і сярэдніх школ пачнуцца **27 студзеня** і будуць працягвацца да **8 лютага**. Рашучая большасць навучэнцаў свабодныя ад заняткаў два тыдні правядзе дома з-за дарагавізны арганізаваных форм адпачынку.

# Весткі з Беларусі

**Дзяржаўнае свята**

Дэкрэтам № 1 прэзідэнта Рэспублікі Беларусь устаноўлена дзяржаўнае свята — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Ён будзе адзначацца штогод 3 ліпеня. у дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне. Дзень незалежнасці з'яўляецца нерабочым і праводзіцца як усенароднае свята.

**Вышэйшыя цэны**

У Беларусі павышаны цэны на мясную і некаторыя віды малочнай прадукцыі, а таксама на кандытарскія вырабы. Рознічныя цэны на прадукты харчавання ўзраслі ў сярэднім на 15-20% з-за павышэння закупачных цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю.

**Новы курс долара**

Урад рэспублікі і Нацыянальны банк прынялі пастанову аб некаторых мерах валютнага рэгулявання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з асноўнымі накірункамі развіцця рэспублікі да 2000 года з 1 студзеня 1997 г. устаноўлены афіцыйны курс беларускага рубля ў межах 15 500—21 000 за 1 долар ЗША і адпаведныя абменныя курсы ў адносінах да іншых замежных валют. На пазабіржавым валютным рынку па аперацыях куплі-продажу наяўнай і безнаяўнай валюты ўводзіцца гранічны павышальны каэфіцыент 1,05.

**Заява аб лібералізацыі**

Урад Беларусі будзе дабівацца ў 1997 г. лібералізацыі курсу нацыянальнай валюты. — заявіў міністр эканомікі Уладзімір Шымаў у размове з журналістамі. У якасці меры для дасягнення гэтай мэты ён назваў адмену нарматыву абавязковага продажу суб'ектамі гаспадарання часткі валютнай выручкі. На ягоную думку, трэба таксама ліквідаваць ножніцы паміж яўным і безнаяўным курсамі беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША. Шымаў звярнуў увагу, што курс нацыянальнай валюты Беларусі трэба ўвязваць з узроўнем інфляцыі ў рэспубліцы. Урад, па словах міністра эканомікі, будзе таксама рабіць настойлівыя крокі па ўзаемаўвязванні курсу беларускага і расейскага рубля.

**Айчынны ўсюдыход**

На ваенным палігоне ў прыгарадзе Менска адбыліся выпрабаванні ўсюдыхода, на якім беларуская экспедыцыя збіраецца штурмаваць паўднёвы полюс у 2000 годзе. Усюдыход створаны на беларускім прадпрыемстве айчынным канструктарам Віктарам Радкевічам і названы ўдзельнікамі экспедыцыі „Пнеўматыкам". Арганізатары экспедыцыі маюць намер браць з сабой у Антарктыку амуніцыю, выробленую выключна на заводах і фабрыках Беларусі.

**Аптымізм у Мастах**

У два разы больш, чым чакалася, з'явілася рабочых месц у Мастах у мінулым годзе. Гэта стала магчымым дзякуючы адкрыццю новага дзіцячага садашколы, павелічэнню вытворчых магутнасцей на сумесным беларуска-польскім прадпрыемстве „Самана-плюс" і на некалькіх малых прадпрыемствах, а таксама развіццю прыватнага прадпрымальніцтва. Тут працаўладкавана больш за 120 чалавек. Яшчэ некалькі соцень забяспечаны часовай работай, дзякуючы заключэнню мясцовым цэнтрам занятасці насельніцтва спецыяльных дагавораў з калгасамі, гандлёвымі і іншымі арганізацыямі. У выніку — у горадзе адзін з самых нізкіх на Гродзеншчыне паказчыкаў па беспрацоўі.

**Помнік на канверце**

Відарыс унікальнага помніка беларускай эпіграфікі XII стагоддзя, т.зв. Рагвалодавага каменя (трохметравага валуна з надпісам з 1171 года), можна ўбачыць на немаркіраваным паштовым канверце, які выпусціла Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Гэта своеасаблівы падарунак Оршы. Яна ў чэрвені гэтага года адзначыць сваё 930-годдзе. Менавіта тут, недалёка вёскі Дзятлава (18 км ад Оршы), знаходзіцца гэты манументальны помнік, які да нашых дзён не зберогся.

**Пройгрыш „Алімпіі"**

Працягваецца чэмпіянат Усходнееўрапейскай хакейнай лігі. У яго рамках менскі клуб „Цівалі" на сваёй лёдавай пляцоўцы ў двух матчах перамог хакеістаў польскай „Алімпіі" (11:0 і 3:0).

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Як будавалася камуна** — расказвае Антон Барташук.
- **Калядаванне ў Беластоку і Гайнаўцы.**
- **За чым заязджаюць аўтафуры ў Орлю** — піша Міхал Мінцэвіч.

# Заслужаная для народнай культуры

У вёсцы Міклашы Арлянскай гміны жыве Вольга Казлоўская, якой умелыя рукі з наймалодшых гадоў вычароўваюць з саломы і бярозавых галінак фігуркі звяроў, розныя цацкі, лялькі, талеркі і іншыя вырабы дэкаратыўнапрыкладнога мастацтва.

Народная мастачка нарадзілася 5 красавіка 1922 года ў вёсцы Шэрні Арлянскай гміны. Ужо ў школьныя гады праявіліся мастацкія здольнасці дзяўчынкі — яе рукадзелле і малюнкі заўсёды былі найпрыгажэйшымі. У яе бацькоўскім доме з'явілася першая ў вёсцы ёлка, тады навіна ва ўсходняй Беласточчыне. Усе ёлачныя аздобы і цацкі прыдумала і выканала яна сама.

Вольга Казлоўская так успамінае пачаткі свайго захаплення рукадзеллем: „Было для кого робіты, бо ў нас была сем'я з пяті чоловіек, браця, сёстры. То я вышывала, вязала, ткала, показывала інным як тое робітся". Гэтая шчырасць і адкрытасць засталася ёй да сённяшняга дня. Майстрыха заўсёды ахвотна дзеліцца з іншымі сваімі замысламі і вопытам.

Замуж выйшла яна ў 1942 годзе ў Міклашы і там таксама працягвала займацца рукадзеллем. Не шкадавала часу на грамадскую дзейнасць. Шмат разоў арганізавала дажынкі, на якія выплятала прыгожыя абрадавыя вянкі. Удзельнічала ў конкурсе „Больш садавіны, гародніны і кветак". У 1985 годзе за добрыя вынікі і перамогу на конкурсах была ўзнагароджана Сярэбраным крыжам заслугі.

З 1960-х гадоў мастачка занялася вырабамі з саломкі і ў гэтай галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва дасягнула найвышэйшага майстэрства. Пачынала яна ад саламяных цыновак, якія ткала на кроснах, потым выплятала розны велічыні корабы, шытыя ракітай. З васьмідзеятых гадоў Вольга Казлоўская стала ствараць арыгінальныя прадметы паводле сваіх праектаў: батлейкі, конікі, пеўнікі, лялечкі, ёлачныя ўпрыгожанні. Яе муж Даніла дапамагае выконваць складаныя каркасы для калядных гвяздаў і парасонаў.

Свае вырабы мастачка прэзентавала на шматлікіх кірмашах па ўсёй краіне, у тым ліку і на прэстыжнай „Цэпэліядзе" ў Варшаве. З-за дрэннага здароўя не рашылася выязджаць за граніцу, хаця запрашалі яе туды не адзін раз.

Шмат разоў заваёўвала першыя і другія месцы на многіх конкурсах і выстаўках. Яе вырабы знаходзяцца ў фондах музеяў у Беластоку, Торуні, Варшаве. Парасоны ейнай вытворчасці карыстаюцца папулярнасцю ў Швецыі.

У знак прызнання за заслугі для народнага мастацтва Вольга Казлоўская ў 1994 годзе атрымала ўзнагароду імя Оскара Кольберга, а ў 1996 годзе — узнагароду міністра культуры і мастацтва за сукупнасць яе творчых дасягненняў. Калі я наведаў спадарыню Вольгу ў снежні мінулага года, пісьманосец акурат прынёс ёй прыгожую адкрытку са святочнымі віншаваннямі ад Канцылярыі Сената за подпісам маршалка Адама Струзіка.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*


*Вольга Казлоўская на „Цэпэліядзе" ў Варшаве ў 1991 годзе.*

# Забытыя людзі

На пачатку снежня мінулага года слухаў я перадачу Беластоцкага радыё, у якой паведамлялася, што ваенкаматы ў Бельску-Падляшскім і Беластоку арганізавалі мерапрыемствы для тых бацькоў, якіх прынамсі трое сыноў служылі ў Войску Польскім. Такіх бацькоў вайсковыя ўлады ўзнагародзілі медалямі, прымалі іх у сябе і частавалі салдацкім гарохавым супам.

Аднак бельскія і беластоцкія ваенныя чыноўнікі не памяталі аб усіх бацьках мнагадзетных сем'яў, якія далі нашай арміі па трое і больш салдат. Напрыклад, у вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны ёсць тры такія сем'і, але да гэтай пары ніхто гэтых бацькоў у ваенкамат не паклікаў, каб падзякаваць ім за выхаванне сыноў-жаўнераў.

Вось сям'я Канстанціна і Зофіі Нікіцюкоў, якіх сыны Яўген, Уладзімір і Аляксандр былі прызваны ў армію і выканалі свой грамадзянскі абавязак перад Радзімай. Таксама і Вольга Амельянюк выпраўляла ў войска сваіх трох сноў: Яўгена, Мікалая і Аляксандра. Трэцяя — гэта мая сям'я. Трое маіх сыноў таксама служылі ў радах Войска Польскага. Іван і Яўген пайшлі ў армію датэрмінова. Іван, адслужыўшы тэрміновую ваенную службу, застаўся ў арміі і працуе там па сённяшні дзень. Мікалай быў прызваны своечасова, але яму з-за хваробы не было дадзена даслужыць да канца і датэрмінова быў перанесены ў запас.

Цікава, чаму пра гэтыя сем'і не памятаюць вайсковыя ўлады. Варта было б, каб гэтых бацькоў таксама ўзнагародзілі медалямі ці ганаровымі граматамі. Такі жэст каштуе не так і дорага, а колькі радасці мог бы прынесці старым, нямоглым ужо бацькам. Каб было танней, яны нават гатовы адмовіцца да гарохавага супу.

**Мікалай Лук'янюк**

# Прайшоў год

Завяршыўся 1996 год. Якім ён быў для беларускага асяроддзя ў Польшчы? Па-мойму, можна яго ацаніць станоўча. На палітычнай дзялянцы варта адзначыць ваяводскую ўрачыстасць адкрыцця Пачатковай школы ў Кляшчэлях, у якой удзельнічалі прэм'ер-міністры Польшчы і Беларусі — Уладзімеж Цімашэвіч і Міхаіл Чыгір. Прэм'ер Цімашэвіч быў таксама госцем святкавання 130-годдзя дзейнасці гуртко вясковых гаспадынь у Нараўцы. Урэшце В. Цімашэвіч, Дарыюш Расаці і Веслаў Качмарак былі неафіцыйнымі гасцямі на народным фэсце ў Міхалове.

У мінулым годзе з'явіліся новыя часопісы, якія апісваюць нашу беларускую сітуацыю, напрыклад „Gazeta Hajnowska". У Беластоку дзейнічае польска-беларускае прадшколле, штораз часцей адбываюцца сустрэчы „Зоркі", у ходзе якіх найбольш актыўныя дзеці і моладзь абучаюцца ў галінах нацыянальнай культуры і журналістыкі. Адзначыць трэба аднаўленне дзейнасці БАС у Варшаве. Праводзяцца цыклічныя мерапрыемствы, ладжаныя Беларускім грамадска-культурным таварыствам, адбываюцца чарговыя „Басовішчы" ў Гарадку і „Бардаўскія восені" ў Бельску-Падляшскім, вандруюць студэнцкі рэйд „Сцяна" і тэатр „Жывое слова".

Летась выйшаў першы сучасны падручнік па беларускай мове для III класа пачатковай школы аўтарства Тамары Русачык. Шторaз большае прызнанне ў краіне і ў замежжы заваёўвае мастак Лявон Тарасэвіч, які падкрэслівае свае беларускія карані — стаў ён выкладчыкам Акадэміі мастацтваў. Вылучэнне ў маштабе краіны атрымаў праект Дафрея Фіёнка і Яўгена Вапы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа" ў трэцім выпуску арганізаванага Фондам культуры конкурсу пад лозунгам „Малыя айчыны — традыцыя для будучыні".

На літаратурным палетку трэба адзначыць, што мінулагодні юбіляр Сакрат Яновіч быў узнагароджаны Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы. На кніжных паліцах з'явіўся чарговы паэтычны зборнік Яна Чыквіна „Odpoczynek przy wyschniętym źródle", а прафесар Ян Тарпіла назваў аўтара „беларускім Міцкевічам".

У маім — беларуса — асабістым жыцці таксама здарылася многа добрага. Пашанцавала мне сустрэцца з актыўнымі людзьмі з беларускага асяроддзя: Ганнай Кандрацюк, Дарафеем Фіёнікам, Міхасём Андрасюком, Янам Морданем і Міколам Ваўранюком. Стаў я працаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы (праўда, на няпоўную стаўку). Менавіта гэта на мурах нашай школы перад пачаткам новага школьнага года з'явіліся надпісы: „Pierwszoklasisto, wybierz Polskę", „Teraz Polska", „Podziemie walczy". На шчасце быў гэта толькі адзіночны інцыдэнт.

Канчаючы, хачу дадаць, што мая падборка мінулагодніх здарэнняў з жыцця нашай грамадскасці з'яўляецца суб'ектыўнай. Прапаную чытачам „Нівы" папоўніць гэты пералік важнымі, на іх думку, падзеямі. А ўсім нам жадаю ў 1997 годзе больш плёну ў памнажэнні нацыянальнай культуры і захаванні традыцый.

**Славамір Кулік**

# Беларусь у статыстыцы

Тэрыторыю Беларусі — 207 600 км$^2$ — у 1994 годзе насяляла 10 350 000 чалавек. Шчыльнасць насялення складала тады 50 асоб/км$^2$. Беларусь — дзяржава з перавагай жанчын (на 100 мужчын выпадае іх 113), большасць насельніцтва якой пражывае ў гарадах (68,2%).

У 1994 годзе беспрацоўе афіцыйна спасцігла толькі 1,9% ад агульнай колькасці занятых грамадзян рэспублікі (у Польшчы — 16,5%, Расеі — 1,7%, Літве — 1,6%, Латвіі — 6,3%).

Вытворчасць збожжа на душу насельніцтва склала ў Беларусі 612 кг (Польшча — 565 кг, Украіна — 710 кг, Расея — 573 кг, Літва — 622 кг, Латвія — 313 кг).

Эканамічная сітуацыя Беларусі ў параўнанні з іншымі суседнімі краінамі выглядае зусім аптымістычна. Адным з важнейшых фактараў, якія сведчаць аб стане гаспадаркі, з'яўляецца дынаміка валавога нацыянальнага прадукту брута. У 1993 годзе склаў ён 82% такога ж прадукту з 1990 года. Гэты паказчык атрымаўся вышэйшы чым у Літве (44%), Расеі (61%), Украіне (63%) ці Латвіі (55%), але горшы чым у Польшчы (99%).

У 1994 годзе імпарт тавараў у Беларусь завяршыўся сумай 4 296 млн. дол. ЗША, а вартасць экспарту дасягнула 2 412 млн. дол. Такім чынам атрымаўся адмоўны баланс у замежным гандлі велічынёю ў 1 884 млн. дол., што ў пераліку на душу насельніцтва дае 184 дол. ЗША (у Польшчы — 112 дол., на Украіне — 5 дол.).

А вось як прадстаўляецца ўдзел Беларусі ў сусветнай вытворчасці некаторых тавараў: халадзільнікі і маразілкі — 1,5%, тэлевізары — 0,9%, радыёпрыёмнікі — 0,7%, цэлюлёзныя валокны — 1,5%, нецэлюлёзныя валокны — 0,9%, азотныя угнаенні — 0,7%, серная кіслата — 0,8%, абутак — 1,1%, масла сметанковае — 1,8%, мука — 1,5%, каровіна малако — 1,1%, курыныя яйкі, свінні, буйная рагатая жывёла, цукровыя буракі — 0,5%, бульба — 4%, ячмень — 1,9%.

**Славамір Кулік**

# Бабры ў Арлянцы

На рацэ Арлянцы — у ваколіцы Орлі і Міклашоў — нават зімою кормяцца бабры, якія пагалоўна зрэзваюць і так нешматлікія дрэвы: крушыну, асіну, вярбу. Умеюць яны перагрызці нават дрэвы дыяметрам да 40 см. Бабры ў Польшчы ахоўваюцца законам!

На фатаграфіі: амаль „ссечанае" бабрамі дрэва каля дубовага рачнога парога, дзе вада рэдка замярзае.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**



# Хацелі быць беларусамі

Уначы з 14 на 15 студзеня 1927 г. былі арыштаваны беларускія паслы ў Сейм Рэчы Паспалітай, лідэры Беларускай сялянска-работніцкай грамады: Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын і Фелікс Галавач. Гэты апошні быў таксама адным з кіраўнікоў Незалежнай сялянскай партыі — польскай арганізацыі левага накірунку. Адначасова былі арыштаваны сотні дзеячаў лакальных структур Грамады і Таварыства беларускай школы. У Вільні закрыты быў Беларускі банк, які ствараў падставы дзейнасці для шматлікіх беларускіх арганізацый. У выніку рэпрэсій амаль за адзін дзень перастала існаваць адна з найбольшых еўрапейскіх партый.

Чаму санацыйныя ўлады, парушаючы законы, спынілі дзейнасць Грамады? На гэтае пытанне доўгімі гадамі шукалі адказу польскія і савецкія гісторыкі. Сёння, хаця з'явіліся больш спрыяльныя ўмовы для даследавання падзей 70-гадовай даўнасці, тэма Грамады зрэдку трапляе пад увагу гісторыкаў.

Няма сумненняў, што Грамада ўзнікла пры арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы Камінтэрна, але таксама нельга сумнявацца і ў тым, што грамадская і палітычная сітуацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі была надзвычай спрыяльнай для развіцця такога руху. Упершыню ўзнікла арганізацыя, якая, не парушаючы ў сваёй дзейнасці заканадаўства ІІ Рэчы Паспалітай, сваімі лозунгамі трапіла ў спадзяванні беларускага насельніцтва. Упершыню нехта так рашуча выступіў у абарону годнасці беларускага сялянства, стварыў умовы для дэманстрацыі чыста чалавечых і нацыянальных патрэб. Грамада — як масавая арганізацыя — хутка пераўтварылася ў школу палітычнай адукацыі. Партыя гэтая выразна затрымала курс, накіраваны на асіміляцыю беларусаў. І нават, нягледзячы на сувязі з камуністамі, гэтага было б дастаткова, каб абвінаваціць партыю ў дзейнасці, якая пагражае „польскай рацыі стану". Ад самага пачатку, калі Грамада стала істотным палітычным фактарам, віленскія газеты розных польскіх арыентацый, як „Słowo", „Dziennik Wileński", „Kurier Wileński", вялі антыграмадоўскую прапаганду. Папулярнасць беларускай партыі сярод жыхароў Віленскага, Беластоцкага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў абвяргала міф аб „польскасці крэсаў". Сотні тысяч бацькоў патрабавалі, каб іх дзеці вучыліся роднай мове. Летам 1927 года мелі адбыцца выбары ў самаўрадавыя органы кіравання. Ніхто не сумняваўся ў тым, што кіраванне гміннымі радамі ў Заходняй Беларусі трапіць у рукі грамадоўскага актыву. Крэсавыя эліты былі перапалоханыя. Памешчыкі, якіх інтарэсы прадстаўляў міністр юстыцыі граф Аляксандр Мэйштовіч, заклікалі Пілсудскага ліквідаваць грамадоўскі рух. Аднак зрабіць гэта без парушэння канстытуцыі было немагчыма.

Артыкул 21 канстытуцыі Рэчы Паспалітай дазваляў арыштаваць пасла ў выпадку, калі б зваліі яго падчас непасрэднага ўчынення ім крымінальнага злачынства. Паслоў Грамады арыштавалі падчас сну, а Галавача — калі той даіў карову. 15 студзеня 1927 года міністр Мэйштовіч афіцыйна паведаміў маршалку Сейма Мацею Ратаю, што затрымаў паслоў падчас здзяйснення імі злачынства. Некалькі дзён спатрэбілася Мэйштовічу, Ратаю і прэм'ер-міністру Казімежу Бартэлю, каб стварыць дакументы, якія далі ўраду падставу апраўдаць перад Сеймам парушэнне канстытуцыі. Асабліва амаральна паводзіў сябе маршалак Ратай, які лічыўся галоўным ахоўнікам канстытуцыйнага парадку ў дзяржаве. Пару гадоў пазней санацыйныя ўлады паслалі ў турму польскіх парламентарыяў, выкарыстоўваючы вопыт, набыты падчас ліквідацыі Грамады.

Пасля судовага працэсу, які закончыўся 22 мая 1928 года, сотні дзеячаў партыі трапілі ў санацыйныя турмы, абвінавачаныя ў здрадзе дзяржавы. Тарашкевіча прысудзілі на 12 гадоў. Вядомы віленскі публіцыст Станіслаў Цат-Мацкевіч, ад імя польскай інтэлігенцыі, дамагаўся Тарашкевічу і яго таварышам шыбеніцы. У 1939 годзе Мацкевіч трапіў у канцлагер у Картуз-Бярозе за парушэнне „рацыі стану", але Тарашкевіча тады ўжо не было ў жывых.

Грамадоўцам здавалася, што ў савецкай зоне ў сапраўднасці ствараецца беларуская дзяржаўнасць пад назвай Сацыялістычнай Рэспублікі. Бальшавікі не забылі аднак пра іх беларускасць. У 1933 годзе арыштаваны былі ў Менску як „нацыянал-фашысты" Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын, Максім Бурсевіч і беларускія камуністы — стваральнікі Грамады: Ігнат Дварчанін і Леапольд Родзевіч. Расстралялі іх у 1937 годзе. Тарашкевіч пражыў сваіх таварышаў на год даўжэй толькі таму, што прабываў тады ў Маскве і стараўся ўступіць у рады Рускай камуністычнай партыі. Расстралялі яго за беларускі нацыяналізм, хаця, спадзеючыся такога лёсу, у апошніх гадах свайго жыцця праслаўляў Сталіна і яго „інтэрнацыяналістычную краіну рабочых і сялян". Для інтэлігенцыі народа, які не мае свае дзяржавы, найчасцей астаецца выбар паміж пачуццём пошласці і турмой. Грамадоўцы паспыталі аднаго і другога.

**Яўген Міраноўіч**

# Тэлебачанне на памежжы

[1 ☞ працяг]

спачатку, што ўсе тры даклады былі глыбока слушныя і так абагульненыя, што нельга да іх прычапіцца. Усё-такі ўсе сабраліся дзеля таго, каб разгледзець спецыфіку рэгіёна, а яе сутнасць заключаецца ў нацыянальных меншасцях. Паводле пісьменніка, БАТ мае шанц звышваяводскі. Літоўскія і беларускія палітыкі (за выключэннем Лукашэнкі) ведаюць польскую мову, што сведчыць аб яе міжнародным значэнні. Тэлебачанне павінна дзейнічаць дзеля нармальнасці і пазбягаць стэрэатыпаў ды сентыменталізму, які заўважаецца напрыклад у творчасці Тамары Саланевіч. Усё ж такі трэба памятаць аб тым, што меншасць не павінна расплысціся ў гэтай нармальнасці, а гэта пагражае, калі меншасная праблематыка распаўзецца па ўсёй праграме. Таму Яновіч выступіў за арганізацыю асобнай рэдакцыі, такой як у радыё.

Наступныя дыскутанты паднялі больш агульныя пытанні. Дырэктар тэатра імя А. Вянгеркі Анджэй Якімец прыпомніў, што ў яго тэатры рабіліся ўжо двухмоўныя польска-беларускія пастаноўкі і выказаў занепакоенасць тым, што пасля ўступлення Польшчы ў НАТО на польска-беларускай мяжы ўзнікне новая жалезная заслона.

Да гэтага адклікаўся Яўген Чыквін, галоўны рэдактар „Przeglądu Prawosławnego". Ён сказаў, што гэта не так, што толькі балканскія нацыі будуць расплачвацца за еўрапейскі варыянт дэмакратыі, але і іншыя еўрапейскія нацыі. Звярнуў таксама ўвагу на праявы спаборніцтва візантыйскай і лацінскай цывілізацый ды тое, што сярод беларусаў заўжды знойдуцца людзі, якіх прыцягнуць секты. У сувязі з тым крытыкаваў падтрымку такім мерапрыемствам, якія праслаўляюць, напрыклад, Вершалін (грыбоўскую секту).

Сярод наступных дыскутантаў (былы сенатар Ян Шафранец, журналістка Анна Маркова, дырэктар Радыё Беласток Ежы Мушынскі) вылучыўся дырэктар Радыё Акадэра Кшыштаф Палубінскі. Сцвердзіў ён, што паходжанне і веравызнанне няважныя, лічыцца толькі прафесіяналізм ды пахваліўся, што ў яго калектыве ніякіх канфліктаў няма. Забыўся толькі дадаць, што ў яго радыё няма і ніякіх перадач на іншых, чымсьці польская, мовах.

Алег Латышонак ад імя Беларускага саюза прадставіў праект беларускай праграмы, складзенай кіраўніцтву БАТ. Гэта павінны быць інфармацыйная, культурная, асветная (курс беларускай мовы для пачаткоўцаў і *заавансаваных*), гістарычная і маладзёжная (якую павінны весці запрошаныя маладыя людзі) перадачы. Алег Латышонак паведаміў таксама, што Беларускі саюз, які ўжо больш за год супрацоўнічае з тэлебачаннем, мае падрыхтаваных пяць журналістаў, якія прайшлі абучэнне ў рэгіянальных асяродках тэлебачання. Апошняя заява зрабіла адавочнае ўражанне на іншых нацменах.

Галоўны рэдактар цыганскага „Ром-по-Дром" Станіслаў Станкевіч прызнаўся, што ромы не маюць адпаведных кадраў, тым не менш выказаўся за рамкі для нацыянальных меншасцей і сказаў, што не баіцца сварак між імі.

Затое Галіна Раманчук з Расійскага культурнага таварыства сказала, што няпольская мова не заўсёды патрэбная, важнейшае, каб не было канфліктаў. Бойка за рамкі скончыцца перасвараннем. Таму расейцы не хочуць рамкі, толькі адпаведнай інфармацыі. Спадарыню Галіну падтрымаў у тым яе сын Андрэй.

Яўген Чыквін сказаў, што яго часопіс мае вядомых журналістаў, якія могуць выступіць у тэлебачанні не горш за тых з Беларускага саюза, няхай сабе і абучаных. Выказаўшы пераканане, што нацыянальныя меншасці будуць сварыцца, заклікаў стварыць пры БАТ нейкую кансультацыйную групу.

Хаця нарада прысвечана была памежжу, здамінавала яе меншасная праблематыка. Магчыма, так і мела быць. Усё ж такі слушнай здаецца заўвага галоўнага рэдактара „Kuriera Porannego" Войцеха Патоцкага, які сказаў, што надзяляючы такой увагай меншасныя праблемы дырэкцыя БАТ капае сабе дол.

Тэлеперадачы на беларускай і іншых мовах ідуць у Беластоку ўжо больш года. Тым часам некаторыя ўдзельнікі дыскусіі як быццам аспрэчвалі іхні сэнс. А передача на беларускай мове гэта не справа чыёгасьці пажадання, толькі польскіх законаў. Прабаваў аб гэтым прыпомніць прысутным Юрка Каліна з „Czasopisa", але, відаць, дарма.

Узнаўляючы дыскусію аб патрэбе перадач на мовах нацыянальных меншасцей, дырэкцыя БАТ непатрэбна ўскладняе становішча. Застаецца спадзявацца, што, выслухаўшы голас публічнай думкі, кіраўніцтва БАТ будзе надалей рабіць сваё, г.зн. таксама і перадачы на беларускай мове.

**Алег Латышонак**

# Навагодні падарунак беларусам ад Ельцына

13 студзеня паводле новага стылю, а 31 снежня паводле старога, усе інфармацыйныя агенцтвы свету аб'явілі, што прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын выказаў волю аб'яднаць сваю краіну з Беларуссю. Ад двух гадоў палітыку ў гэтым напрамку праводзіў „управляющий государством Беларусь" Аляксандр Лукашэнка. У 1994 годзе, зараз пасля выбару Лукашэнкі на пост прэзідэнта, аб'явіў ён гатоўнасць ісці на каленях у Маскву і прасіць тамашніх гаспадароў прыняць Беларусь у расійскую супольнасць. Тады, аднак, сярод кіраўнікоў Расіі шмат было людзей, якія ці гэта па прычыне сваіх перакананняў, ці звычайнай моды, называлі сябе дэмакратамі і з лёгкай пагардай ставіліся да найвышэйшага ўрадніка з Менска. Лукашэнка пачаў тады інтэграцыю нават супраць волі крамлёўскіх кіраўнікоў. Пры дапамозе хлусні, дэмагогіі і рэферэндумаў ліквідаваў усе прыкметы дзяржаўнай і нацыянальнай самастойнасці. Перачакаў ён расійскую кан'юнктуру на дэмакратыю, пакуль месца Гайдараў і Яўлінскіх на палітычнай карце Расіі занялі Жырыноўскія, Зюганавы, Лебедзі. Напярэдадні 1997 года (паводле старога стылю) прэзідэнт Беларусі атрымаў доўгачаканы падарунак. Цяжка хворы Ельцын даў дазвол на далучэнне Беларусі да Расіі, стварэнне дзяржавы з адным урадам, гаспадаркай, валютнай палітыкай. У рэчаіснасці — гэта зялёнае свята для фармальнай ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці. Некаторыя еўрапейскія камentатары хацелі б бачыць заяву прэзідэнта Ельцына як вынік палітычнай гульні, якую ён праводзіць з Паўночнаатлантычным пактам, але для будучыні Беларусі не мае вялікага значэння, па якіх прычынах можа загінуць дзяржава.

Вядома, як у такой сітуацыі трымаўся б кожны еўрапейскі народ. Свабоды ў канцы сталі патрабаваць сербы і балгары. У Рэспубліцы Беларусь сярод разгубленай, няшчаснай савецкай масы ніхто нават не заўважае болю беларусаў, якім чарговы раз у гэтым стагоддзі топчуць нацыянальную годнасць, Бацькаўшчынай гандлююць як таварам, апаганьваюць родную мову і культуру. Выглядае на тое, што ў недалёкай будучыні чарговыя пакаленні беларусаў вымушаны будуць ад пачатку змагацца за незалежнасць, якую ў 1990 годзе падаравала нам гісторыя. **(рэд.)**

# Абеларушаны амерыканец

[1 ☞ працяг]

мі, гуманітарнай адукацыяй, веданнем моў, можа весці займальную дыскусію на кожную тэму, умее расказваць і слухаць. У час апошняй пабыўкі ў нас быў незадаволены сабой, бо сустрэчныя сяляне найбольш пыталі яго пра сельскую гаспадарку ў Злучаных Штатах, а ён у гэтай справе адчуваў сябе далёка не экспертам. *Да наступнага прыезду трэба будзе нешта пачытаць*, — казаў ён, ад'язджаючы.

Абараніўшы доктарскую дысертацыю, працаваў ён год выкладчыкам расейскае мовы ва Універсітэце Паўднёвай Караліны, у сталіцы гэтага штата — Калумбіі. Меў я нагоду гасцяваць там у яго. Курт аказаўся надзвычайным гідам, ужо дасканала зарыентаваным у лакальнай гісторыі, спецыфіцы рэгіёна. Паказаў мне не толькі гістарычны порт Чарлстан, Калумбію і вялікія навакольныя багны, але і расказваў пра асаблівасці мовы тамашніх жыхароў, пра складаныя разрахункі з гісторыяй амерыканскага Поўдня, урэшце пра сённяшнія клопаты рэгіёна.

Цяпер Курт Вулгайзер працуе ў Тэхаскім універсітэце ў Осціне. Насуперак чорным прагнозам менскіх сяброў, надалей займаецца беларусістыкай. А прагнозы ўзяліся адтуль, што Курт ажаніўся з дзяўчынай з-пад Масквы. *Усё. Для беларускай справы ён страчаны*, — сказалі мне нашы супольныя знаёмыя. Тым часам жонка Аня стала беларускай патрыёткай, а Курт падрыхтаваў на наступны год на сваім філалагічным аддзяленні курс „Уводзіны ў беларусаведу". Цяпер збірае адпаведную колькасць студэнтаў і аспірантаў, бо ад гэтага залежыць будучыня курса. Першыя ахвотныя ўжо ёсць.

Восенню Курт Вулгайзер правёў па два месяцы на Гродзеншчыне і на Беласточчыне. Атрымаў ён стыпендыю на даследы беларускіх дыялектаў пабапал сённяшняй дзяржаўнай мяжы. Цікавіць яго эвалюцыя ў два розныя бакі аднаго калісьці моўнага арэалу. Найбольш спадабалася, што мог пахадзіць слядамі Міхала Федароўскага. Выявілася, жывуць яшчэ нашчадкі людзей, якіх апісаў вялікі фалькларыст і нават памятаюць пра сваіх продкаў. Гэта было вельмі нечаканае і прыемнае адкрыццё.

Завязаў ён цяпер супрацоўніцтва з Філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. Студэнты філалагічных аддзяленняў абодвух універсітэтаў працягваюць збіраць матэрыял для будучай яго манаграфіі па дыялекталогіі. Сам збіраецца зноў да нас прыехаць летам.

На гэты раз прынамсі ў „Ніве" не здзівіць нікога сваёй дасканалай беларускай мовай. Бо апошні раз нашы пані з рэдакцыі пераказвалі мне: *Учора заходзіў да вас нейкі пан з Менска.*

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*



*Курт Вулгайзер з жонкай Аняй у Паўднёвай Караліне (здымак зроблены ў лютым 1994 г.).*



Фота Віктара ВОЛКАВА

# Стары Новы год

Зімовае святкаванне выяўляецца ў інтэнсіўнай і працяглай форме. Пачынаецца яно ў Беластоку каля 20 снежня старога года — тады ўжо чалавек пачынае адчуваць, што гарадская інфраструктура як бы не працуе (перастала дзейнічаць). А завяршаецца гэты феерычны перыяд на такой жа даце ў студзені новага года (на ўвазе маюцца даты паводле новага стылю). У выпадку газеты адчуваецца ўсё гэта асабліва выразна — у палове снежня скранаецца з месца заведзены парадак выпуску чарговых нумароў, якіх планаваць даводзіцца па два-тры наперад, бо інакш друкарня не аддрукуе (друкары таксама ж людзі і святкаваць не адмовяцца).

„Спозненасць" старога стылю на 13 дзён мае дзве прычыны. Першая — гэта рэформа календара ў 1582 годзе, калі ўказам папы Грыгорыя XIII быў устаноўлены скок на 10 дзён. Другая прычына бярэцца з неаднолькавай працэдуры налічвання дваццаць дзевятага дня ў месяцы лютым. Абодва календары дадаюць дадатковы дзень, калі лік года падзяляецца на чатыры (факт усім добра вядомы), але новы каляндар не дадае яго, калі лік года складае поўную сотню (дзеліцца на 100). У новым календары аднак жа, яшчэ дадаткова, прыдаецца ўсё-такі гэты дзень у лютым раз на 400 гадоў (лік года дзеліцца на 400). Стары каляндар такіх фокусаў не робіць. Гэта і ёсць розніца паміж абедзвюма сістэмамі лічэння часу. „Спозненасць" павялічыцца да 14 дзён у 2100 годзе. Усё гэта здаецца быць вельмі складаным, але і лёс артадаксальнага беларуса расцягнутага на прамежку гэтых трынаццаці дзён не надта просты.

У асяродках праваслаўнай расцярушанасці ў краіне вернікі ўжо некалькі гадоў таму адмовіліся ад гэтага святочнага дуалізму. Беласток і Беласточчына, як самая вялікая згуртаванасць праваслаўных вернікаў, трывае ў старым стылі як апошняя яго цвярдыня ў Польшчы. Усё яшчэ ёсць дзеля гэтага падставы. Колькасна вялікая грамада вернікаў праваслаўя дае рады другі раз устанавіць у Беластоку атмасферу святочнасці, што выяўляецца ў другой хвалі пакупак у крамах і другой, падобнай ёй, хвалі святочных пажаданняў. Сам жа Беласток, таксама, як бы прыстасаваўся да гэтага дуалізму. Навагоднія балі (маецца на ўвазе стары стыль) не саступаюць ні па колькасці, ні па якаснасці сваім навастылевым папярэднікам. Радыёстанцыя ў Беластоку таксама ж пагадзілася з фактам „Sylwka po raz drugi" і ў ноч з 13 на 14 студзеня (ізноў новы стыль) перадае адмысловы музычны блок, дзе, як ніколі на працягу года, можна наслухацца „ruskich piosenek". Калі ласка — кошт песні на заказ і пажаданняў блізкім 25 зл. (паводле новага, не, не стылю, а валюты!). Сума гэтая на выгляд салідная і, я б сказаў, не кожнаму па кішэні, але ж наша прывязанасць да ўсякага святкавання і ахвота рабіць падарункі мацнейшыя за фінансавую здольнасць, што і з'яўляецца крыніцай эканамічнага поспеху ў кожны святочны перыяд. Напэўна ж і прэзідэнту Расіі не па кішэні браць дзесяцімільённую Беларусь на свой разлік, але, як ужо казалася, схільнасць да сувеніраў мацнейшая за ўсякую рацыянальную калькуляцыю, таму прэзідэнт і не стрымаўся ад навагодняга (стары стыль) сюрпрызу.

Ёсць у такім працяглым ды інтэнсіўным святкаванні адна, хай сабе і невялікая, але адмоўная рыса. Гэта не дуалізм і не шызафрэнія — яны прынцыпова закладзены ў аснову беларускага лёсу ў гэтым свеце. Адмоўнасць гэтая мае, так сказаць, агульначалавечы сэнс — чым даўжэй святкуеш, тым цяжэй вярнуцца ў рэальнае жыццё, прачмухацца.

**Аляксандр Максімюк**

# Акадэмія Хадкевічаў

Вядомы даследчык гісторыі праваслаўя на Беласточчыне прафесар Юры Лабынцаў з Расійскай акадэміі навук з'яўляецца гэтым разам сааўтарам, супольна з Ларысай Шчавінскай з Менска, чарговай кніжкі, прысвечанай беларускім праваслаўным выданням на Падляшшы ў XVI стагоддзі*. У заснаваных Хадкевічамі мястэчках — Заблудаве і Супраслі — узніклі славутыя не толькі на Падляшшы, але таксама ў Рэчы Паспалітай цэнтры праваслаўнай інтэлектуальнай думкі, якія выдатна паўплывалі на культурнае жыццё Вялікага княства Літоўскага. Аўтары прадстаўляюць развіццё горада Заблудава і Супрасльскага манастыра на фоне агульнай палітыкі роду Хадкевічаў. На гэтым прыкладзе знакаміта відаць, як пры спрыяльных палітычных і эканамічных умовах, сярод лясных абшараў выраслі жамчужыны культуры Вялікага княства Літоўскага.

Кніжка Лабынцава і Шчавінскай паказалася ў серыі „История книжной культуры Подляшья". Сярод сяброў рэдакцыйнай калегіі гэтага выдання знаходзіцца таксама айцец Рыгор Сасна, які прадстаўляе там Беларускае гістарычнае таварыства з Беластока. Таварыства, побач Міністэрства культуры Беларусі і Расійскай акадэміі навук, як інфармуецца на другой старонцы кніжкі, з'яўляецца заснавальнікам успомненай бібліятэчнай серыі.

**(ям)**

*Ю. Лабынцев, Л. Щавинская, *Православная Академия Ходкевичей и ее издания*, Минск 1996, сс. 160.

# Нарада Беларускага саюза

3 студзеня 1997 г. адбылося супольнае пасяджэнне Генеральнай асамблеі Беларускага саюза (сходу ўсіх старшынь паасобных арганізацый) і Выбарчай камісіі.

Старшыня БС Яўген Вапа прадставіў вынікі сустрэчы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей з прадстаўнікамі Міністэрства культуры і мастацтва, а таксама са станам старанняў аб стварэнні сталай беларускай перадачы ў праграме Беластоцкага асяродка тэлебачання.

Выбарчая камісія прадставіла вынікі размоў адносна магчымых саюзаў у сёлетніх выбарах у Сейм і рэкамендавала заключыць дагавор з Уніяй працы.

Генеральная асамблея назначыла тэрмін З'езду Беларускага саюза на 1 сакавіка 1997 г.

**Алег Латышонак**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Для хворых дзяцей

23 снежня мінулага года ДСК (Дзіцячая клінічная бальніца) у Беластоку наладзіла ёлку для хворых дзяцей. На гэту ёлку дырэкцыя запрасіла наш танцавальны клуб „Ціп-топ". Дзве пары (мы з Якубам Вайдановічам і пара дзесяцігодкаў: Артур Рэцька і Малгажата Бабена) мелі выступіць перад хворымі дзецьмі.

Мы вельмі хваляваліся: як успрымуць яны нас? Ім жа танцы, пэўна, не ў галаве. Яны хворыя. А ўсё адбылося зусім інакш. У залу на ёлку прыйшлі здаравейшыя дзеці. Больш хворыя засталіся наверсе, у сваіх палатах. Тыя, што аглядалі нас, прынялі нас вельмі цёпла. Горача білі „брава" нават самыя маленькія, двухгадовыя дзеткі, якія сядзелі на руках у бацькоў, апранутых у аднаразовыя гігіенічныя халаты.

Мы танцавалі лацінаамерыканскія танцы. На стандартныя танцы ў канферэнцыйнай зале не было месца. Лацінаамерыканскія танцы патрабуюць менш месца і сукенкі не такія пышныя, а больш прылягаюць да цела і кароткія, а не доўгія.

Мы нават не ўяўлялі сабе, што дзецям наша выступленне так спадабаецца, і таму былі вельмі ўзрушаны іх прыёмам. Наш трэнер Кшыштаф Бялявец запрашаў дзяцей (калі яны ўжо папраўяцца) у наш клуб — вучыцца танцаваць.

А пасля прыйшлі два Мікалаі. Адзін адразу пайшоў з падарункамі наверх — да ляжачых пацыентаў; а другі прыйшоў да нас. Ён доўга размаўляў з дзецьмі, пра ўсё ў іх пытаўся, а яны павінны былі адказваць. Але, хаця, яны былі і хворыя, адказвалі вельмі бойка. Калі ў малога (мо яму было два з паловай гадкі), седзячага на каленях у бацькі, ён спытаў, што ён хоча атрымаць у падарунку, той сказаў, што шапку і ровар. А што ты будзеш рабіць з той шапкай? — не сунімаўся Мікалай. „Надзену на галаву, сяду на ловар і паеду!"

А пасля ўжо Мікалай пачаў раздаваць падарункі. Даў таксама і нам, „артыстам", як ён сказаў.

Дырэкцыя дзіцячай бальніцы штогод арганізуе ёлку для сваіх пацыентаў. Можа, запросяць нас туды яшчэ калі-небудзь. Было б нам вельмі прыемна выступіць яшчэ раз для хворых дзяцей. Цешыла нас, калі мы бачылі на іх тварах усмешкі.

**Адрыяна Семянюк, Беласток, школа н-р 9**




*Васьмікласнікі з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка № 4

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| SIŁA | SZPAK | | | | | CYRK |
| PAZURY | | SZCZUR | | JUDASZ | RAZ | |
| | | | | | | |
| OPOWIA-DANIE | | UDERZE-NIE, CIOS | | | | |
| | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 52: **Дружны клас.**

Узнагароды — каляровыя аўтаручкі (cienkopisy) — выйгралі: **Аня Матэйчук, Паўлік Кахановіч, Гжэсь Кандратовіч, Паўлік Гжэсь** з Гарадка, **Марта Вяршко, Давід Сліўка** з Бельска -Падляшскага, **Патрыцыя Кос, Магда Дудзіч** з Ласінкі, **Ілёна Трашчотка** з Навасад, **Паўлік Ільяшук** з Кленік.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у нашай рэдакцыі, або чакаць іх у сваёй школе.

Юзэфа Драздоўская

## Зіма

Што з птушкамі, скажыце шчыра,
зімою з маразамі,
якія не ляцяць у вырай
а астаюцца з намі?

Што з амялушкаю, сініцай,
маленькім верабейкам?
Дзе ім зімою прытуліцца
падчас ліхой завейкі?

Яны ж не маюць зімніх ботаў,
ніякае апраткі,
кладовак у зімы сумётах,
ніводнага зярнятка.

А што з пакінутымі ўсюды
сабакамі, катамі?
Ці ж ім зімою бедным, блудным,
трэба калець таксама?

Дайма мы птушкам крышку зёрнаў,
так вельмі есці хочуць.
Сабакам і катам надворным
цёплы з ядой куточак.

*Пераклаў Віктар Швед*

## Зімовае здарэнне

Настаў халодны зімовы вечар. І я засумавала. Таму я намовіла сваю сяброўку пайсці ў лес. Яна згадзілася. Яшчэ не вельмі змяркала. Скрыпеў толькі снег пад нагамі. Цэлую дарогу мы смяяліся, апавядалі сабе розныя здарэнні. Свежае паветра напоўніла нашы грудзі. Мы пачуліся лягчэй, на сэрцы зрабілася весела. Раптам мая сяброўка на белым снезе ўбачыла шырокія сляды звяроў. Мы падышлі бліжэй пад вялікія і зялёныя елкі, дзе найбольш было гэтых слядоў. Убачылі мы толькі шнур і штосьці падобнага на сіло для звяроў. Я перапалохалася, што яшчэ такое ў нас здараецца. У хаце я расказала пра гэта бацьку. Ён сказаў мне, што такія практыкі забаронены правам. Разам з маёй сяброўкай мы вырашылі хадзіць у лес часцей і знішчаць петлі. Гэта не віна звяроў, што на белым снезе так добра відаць іхнія сляды.

**Аня Садоўская ПШ у Нарве**

## Людзі з пушчанскіх вёсак

Холад лістападаўскага дня не перашкодзіў удзельнікам VI Сустрэч „Зоркі" здзейсніць свае намеры, пазнаёміцца з жыхарамі Доўгага Броду. Вёска гэтая ляжыць непадалёк Старыны — месца, дзе праходзілі нашы сустрэчы.

Мы паставілі сабе за мэту завесці знаёмства з Цімафеем Білевічам. Гэтага старэйшага чалавека ведаюць тыя, што аглядаюць беларускія перадачы ў „Тэлевізійным кур'еры ваяводстваў". І мы хацелі паслухаць расказ пра яго жыццё.

Папытаць пра яго хату мы зайшлі да знаёмай нашага апекуна, журналіста „Нівы" Міколы Ваўранюка. Спатканай жанчынай аказалася маці старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы. Яна захапіла мяне сваёй асобай. Шчырая, сімпатычная. Гаспадыня запрасіла нас зайсці ў хату. Чарговы раз я ўпэўнілася ў беларускай гасціннасці.

Цімафей Білевіч якраз быў вельмі заняты. Ён мог прысвяціць нам толькі некалькі хвілін. У гэтага васьмідзесяцігадовага дзядулі аграмадныя веды па механіцы. Пра матор свайго трактара знае ён бадай усё.

Расказаў ён нам пра здарэнне, якое мела месца ў Доўгім Бродзе ў дваццатых гадах нашага стагоддзя. Адзін з жыхароў вёскі адважыўся шчыра сказаць аб існуючым парадку і ладзе. За гэта спаткала яго вялікае няшчасце. Аднойчы ў яго хату прыехала каля дваццаці мужчын. Калі сям'я не сказала, дзе ён знаходзіцца, усіх забралі ў лес і расстралялі. Сярод забітых былі і дзеці.

Я яшчэ добра не ведаю гісторыі Беласточчыны, а ўжо зусім гісторыі гэтага перыяду. Цяжка мне нават зразумець, кім былі гэтыя каты. Для мяне без значэння, ці былі гэта беларусы, палякі ці рускія. Я ўпэўнена, што каранне за палітычныя погляды з'яўляецца найбольшым злачынствам. Няхай ніхто з жыхароў Беласточчыны ніколі больш не перажывае такіх трагедый, як успомненая сям'я з Доўгага Броду. З жалем мы развіталіся з дзядзькам Цімкам.

Спаткалі ма таксама солтыса Доўгага Броду. З'яўляецца ім жыхар Забагоння Андрэй Карпюк. Яго грамадская праца варта пашаны. Ён солтыс чатырох вёсак. Пагаварылі мы пра тое, што беларускія вёскі „старэюць". У яго раёне амаль няма ўжо маладых людзей.

Спатканыя ў Доўгім Бродзе гасцінныя людзі „загасцюють" яшчэ не раз у маёй душы.

**Жанэта Роля вуч. VI класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Талон „Зоркі" № 4
26.01.1997

# Творчасць і конкурс

Вітаюць Цябе, „Зорка", вучні VII-х класаў Пачатковай школы ў Гарадку (вядома, тыя, што вывучаюць беларускую мову). Нас тутака нямнога, але гэта ўжо праблема тых, што не вывучаюць роднае мовы — яны не ведаюць, што губляюць.

На адным з урокаў мы пісалі вершы. Выбар тэмы быў свабодны і мы гэтым поўнасцю пакарысталіся, чаго прыкладам могуць быць нашы вершы, якія Табе, дарагая „Зорка", дасылаем. У нас пэўныя хістанні: ці ты іх надрукуеш — яны тэматычна далёка адыходзяць ад вучнёўскай творчасці нашых равеснікаў, але...

Але мы супольна з нашай новай настаўніцай выбралі найбольш патрасаюшчыя, смешныя і, вядома, найбольш удалыя творы. Урок гэта быў класны, было многа смеху і забавы. Мы ўжо будзем развітацца, паздраўляем Цябе і ўсіх школьнікаў (і дашкольнікаў). Ведаем, што пакідаем Цябе з нялёгкай задачай (друкаваць іці нет), але думаем, што Ты вырашыш акуратна.

P.S. У нашым пісьме некалькі русізмаў* (гэта ўплыў мінуўшчыны) і аб'яўляем **новы конкурс**. Паміж тых, хто знойдзе прынамсі чатыры русізмы і дашле іх у „Зорку", будуць разыграны цікавыя ўзнагароды. На адказы чакаем дзве нядзелі.

*русізм — слова ўзятае з расейскай мовы.

### Сабака і кот

Цёмны лес, ціхі лес,
а па ім сабака лез.
Ён спыніўся на дарозе,
і пабачыў ката ў возе.

Пастагнаў, паглядзеў,
а пасля у вазок сеў.
Даехалі да крыніцы,
каб вады напіцца.

Кот языком пачаў мляскаць,
а сабака хвастом пляскаць.
Папілі і пагаварылі,
Вечарком у хату забрылі.

**Сільвія Паплаўская**

### Грыбы

Вось аднойчы мы пайшлі
ў зялёную дуброву —
але сабраць грыбоў
не ўдалося нікому.

Мы хадзілі цэлы дзень
ад дрэва да дрэва:
Грышка, Паўлік і Андрэй
і сяброўка Ева.

Часта нам казала маці,
як грыбы збіраці,
не хацелася нам слухаць
і за гэта плацім.

З гэтага ўсяго навукі такія:
Лепш слухаць бацькоўскіх слоў,
Чым чужога кія...

**Грышка Цітко**

### Парсюк

Стаіць парсюк побач рэчкі,
каля кусціка парэчкі.
Вельмі моцна ён ляніцца,
вады з рэчкі глыток напіцца.

Пайшоў парсюк дадому,
дзе побач ляжала салома.
Лёг парсюк пры доме
і памёр на саломе.

**Андрэй Казёл**

### Поры года

Была ў нас восень,
было ў нас лета,
была ў нас вясна,
была калісьці і зіма.

Усе поры года,
сабраліся з Новым годам,
пасумавалі, пагаварылі,
і такой кашы наварылі,

што невядома нам,
калі зіма, ці восень ужо,
а то вясны няма,
а толькі лета ўсё.

**Эля Карпюк**

### Хуткі Грышка

Ішоў я раз праз Гарадок
і ўбачыў мяне Грыша Ціток.
Ён раве да мяне з вярсты:
„Давай сюды!". А я крычу:
„Куды?"

Мы стаім, хвілінку-дзве,
А тут да яго дзеўка паўзе:
„Будзь ты мужчынам пры мне"
І крыва глядзіць на мяне.

Пасля гэтага ўсяго,
Грышку, найлепшага сябра майго,
хуткая плынь кахання ўзяла
і трымала, трасла, аж... прайшла.

**Паўлік Гжэсь**



*Жартаўнікі з Гарадка.* Фота Ганны Кандрацюк

**Ад рэдакцыі:**
„Зорка" заўсёды энтузіястычна вітае новыя і нетыповыя праблескі ў творчасці сваіх сяброў. Думаю, што вашы вершы і конкурс спадабаюцца не толькі мне, але і ўсім чытачам, якія маюць пачуццё гумару.

**Увага чытачы!**

Узнагароды, якія падрыхтавалі вам сябры з Гарадка вельмі цікавыя: каляровыя алоўкі, каляндарыкі на 1997 год з Пагоняй і круглыя значкі з гэтым жа гербам. Ад сябе хачу вельмі падзякаваць дзеткам і настаўніцы Тамары Бялькевіч за ўзнагароды і конкурсную ініцыятыву.

**Ганна Кандрацюк**

# На злодзеі шапка гарыць

*(Былічка)*

Людзі кажуць:

— Мой мілы крадзеж, куды ж ты мяне завядзеш?

— На гора, на бяду — я цябе за краты завяду.

Ды ці мала ходзіць па свеце такіх, што пасмейваюцца: „Каму турма, а мне — хата".

Пачуўшы такія словы, спагадлівыя ды мяккасардэчныя людзі толькі галовамі ківаюць:

— А ўжо ж, і злодзею неяк жыць трэба...

І здарылася тое ці то ў Богушах, ці то ў Генюшах.

Якраз пад Каляды чалавек закалоў свінчо. Пасаблялі яму найлепшыя ў вёсцы свінабоі. Асмалілі, разабралі і расклалі ў каморы на памосце, каб астыла для засолу ці крышэння на каўбасы або ў кіндзюк.

Ну і згледзеў адзін злодзей, куды свежаніну кладуць і зараз жа даў знаць сваім супольнікам.

Гаспадары з памагатымі крыху засядзеліся: бо то за свежай скваркай ды за добрай чаркай слова са словам звітней вяжуцца і час непрыкметна сыходзіць. Тут ужо і ноч настала, а ў хаце — гамана, бы ў Саколцы на кірмашы.

Зладзеям жа тое толькі і трэба. Праніклі вядомым толькі ім спосабам утрох у тую камору — на добрага злодзея замка няма — ды давай тую свініну ў свае мяхі ладаваць. Дваіх жылі па-суседску: нахапалі яны колькі і хутчэй прэч з тае каморы. Трэці ж чужы ды надта ж прагны трапіўся. Напіхваючы як мага болей у свой мех, ён і не прыкмеціў, якімі дзвярыма яго сябры з каморы выскачылі. Узваліў ён сваю ношу на плечы ды і падаўся ў першыя лепшыя, а тыя з каморы ды на святлёку выходзілі.

Гаспадары ж з-за гляка ды паўміска і не заўважылі, адкуль няпрошаны госць з мехам у хату ўваліўся. Той жа, змікіціўшы, у што трапіў, не разгубіўся, паставіў мех пасярод хаты ды як загарланіць:

— Мяса-сала прадаю, як задарма, аддаю!..

Гаспадары зірнулі адно на другое ды кажуць:

— Чалавеча добры, а навошта ж яно нам, тваё мяса ды сала, калі мы вось сёння самі кормніка, бы звера, пудоў на дванаццаць, паклалі...

— Не хочаце, то і не трэба, — у адказ ім злодзей і, ускінуўшы мех на плечы, трухтам падаўся з хаты.

Праз хвіліну-другую гаспадыня за скваркаю падалася ў каморку і вачам не паверыла: увесь кормнік знік, бы мара, толькі галава ды хвост на памосце валяюцца. Тут-то ўсе і скумекалі, чыю акрасу прадаваў гандляр.

Кінуліся гаспадары наўздагон за пакражай, але ж зладзеям адна дарога, а пагоні — дзесяць, ды ўсе ў розныя бакі.

Спусцілі сабак, тыя ж нюхнулі след ды паімчаліся за зладзеямі. Але ж і злодзеі не ў цемя біты: як пачулі сабачы брэх, кінулі за сабою кавалак мяса ды пабеглі сабе ў розныя бакі. Сабакі накінуліся на спажыву, сталі вырываць яе адзін другому, грызціся, ледзь гаспадары іх разагналі. А ў тым часе і след па зладзеях прастыў.

Панаракалі гаспадары на сваю нерастаропнасць, пабедавалі па страце, шчырым пастом Каляды адсвяткавалі і на тым справа стала. Але ж не пакінуў яе вясковы староста. Змеркаваў ён, што краў не адзін чужы злодзей і без тутэйшага праваднiка ў чужую камору не трапіў. А калі іх не выявіць і не схапіць, дык злыдняў развядзецца столькі, што і мераю не змерыць. Сабраў ён усю вёску на сходку, наказуючы, што калі хто не прыйдзе, той, значыць, кормніка ўкраў.

Вядома ж, збегліся ўсе. А староста сваім падстарастам паціхеньку шапнуў: „Пільна ўзірайцеся на ўсіх і прыкмячайце, хто за шапку схопіцца, калі я нешта крыкну". Тым часам перапытаў ён сходку, ці ўсе ў зборы, а людзі яму на тое: „Усе ўсенькія! Нават кульгавая Настуля прыклыпала". І ціш тут такая запанавала, бы ў лесе перад навальніцаю, бо ўсе раззявілі, як староста злодзея лавіць будзе. А ён як не гаркне:

— На злодзеі шапка гарыць!..

Усе адзін на другога азірнуліся, а двух схапіліся за свае шапкі ды ў ногі. Тут староста з памочнікамі за імі, а людзі ім на дапамогу. Гэтак спосабам ды грамадою зладзеяў схапілі.

І стала турма ім хатаю.

*Пачуў у вёсцы Богушы каля Саколкі ў 1976 г. і пераказаў*

**Мікола Гайдук**

**Астрог** — інакш: турма.

**Кіндзюк** — начынены адпаведна прыпраўленым мясам свіны страўнік.

**Гляк** — шкляная або гліняная пасудзіна на пітво.

**Староста** — сёння: солтыс.

# Новыя вершы

**Юрка Баена**

* * *

Словы,
якія з крыкам
уварваліся ў гісторыю,
застылі на плітах помнікаў.

Іншыя змоўклі
(ад душэўнай прагі)
або толькі што ападаюць
з паламанымі крыламі.

Жывая памяць, аднак,
не раз нечакана бурыцца.

Падымае рукі,
камяні з аглухшых вулічак...

## Капралы

Многае ў гісторыі свету
не выйшла б так,
калі б не было
дастатковага ліку капралаў.

Каб змагацца,
проста іх трэба ўжо мецъ
падрыхтаваных.
Або нейк паклікаць.
Звыклым словам, аднак,
акуратна не купіш.

У капралаў — поўны аптымізм.
Асабліва тады,
калі аптымізму няшмат у народзе.

Капралы, вядома, у атаку вядуць,
гневам дасягаюць мэту...

Нярэдкі яшчэ й прыклад такі,
калі за сабой
пакідаюць толькі
клубы пылу.

## Словы і горы

Ёсць многа слоў
на Зямлі
вышэйшых чым горы

Шмат слоў у нас
цяжэйшых
за горныя камяні

Ёсць словы
ёсць горы

Сам
без слоў
падымаюся
над прорвай

* * *

Стаю непарушна,
Павярнуўшыся ў бок дня.
Гляджу ў бязмежную даль.
А там толькі імгла...

Людзі, што побач мяне, як карусель,
Кружацца ў замецi —
Налева, направа бягуць,
Шчасце-няшчасце хапаюць рукамі,
Нясуць...

Вецер шапоча дуба лісцем.
З трэскам ломіць сухое галлё...

Калі дакранае ён
Закавулкаў майго паліто,
Незнарок
Я ўсоўваю нос
у попельнік сноў —

Хіба ізноў
Мне прыйдзецца чакаць
Майго прадвесня?

## Анкета

Так
не
не ведаю
не памятаю
хачу падумаць
прыпомніць
рыска
жыву
зусім звычайна
нармальна
калі хтосьці
пастукае да дзвярэй
адкрываю
калі ласка
заходзьце ў дом
гутарым
да канца размовы
не паказваю пальцам
ні на ўсход
ні на захад
нікому не перашкаджаю
быць чалавекам
у Бельску

**Уладзімір Саўчук**

* * *

Жыццё маё ты жыццё
чаго ты мяне навучыла
праз дваццаць гадоў дарастаў
цяпер беззваротназблудзіла
вучылі мяне тыя людзі
ў якіх я быў адзінок
і маці ўвесь час паўтарала
— не забывайся сынок!
вучыся сакрэтную мову
яна з дзеда-прадзеда наша
прывыкаў прывыкаў і прывык
да роднай мовы Падляшша:

„І выйду раненько з косою
росою твар обмыю
на дві вырсты зачысався
тыпэр в холодку доспію".

* * *

Ах! — як прыгожа
спіцца зранку
дзень адсланяе
чорную фіранку
а тут ўжо звоніць
будзільніка званок
ужо пара да працы
— ўставай Іванок!

* * *

*Д. Шатыловічу*

Нашы дарогі разышліся
хаця мы суседзі па мяжы
Чаромха Кузаву абнімае
дзіцячу прыстань сцеражэм
а Вас Варшава загарнула
і там гарадзілі
роднай мовы садок
а я
ўжо яблыкі даспелыя
вазіў чыгункай ў Беласток
ізноў
цвіце зялёнае Падляшша
вось тут наш родны куток дзяцінства
прыстань наша
дзе з прыгаршчы мовы
вырас наш садок.

## Наша заўтра

Прабудзілася адвага
ў душы маладой
вярнуўся загублены снежань
нам трэба прабіцца
і верыць ўжо цяпер
ў размер дэмакратыі свежай
але цяжка выкарміць
родны квартэт
ў партфель заблудзіў
і падатак галодны
на сценах пажоўклы
астаўся партрэт
блізкасць — далёкага
ў вечар халодны.

*Юрку Плютовічу ў Пяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння і Трыццацігоддзе творчай працы.*

**Юрка Плютовіч**

## Вуліца на прадмесці

Іду быццам патанаю. Сляпая
вулічка.
У адчыненым акне пакрыквае
патэфон.

Накармі мяне музыкай. Мелодыяй
са сну.
Быццам крыніца дзяцінства біла
з-за люстра.

Краявід не з вялікай літаратуры.
Гэта ж прадмесце. Прадмесце.

Гэта ж плот з завостраных дошак.
Гэта ж плот.
Уваходу ў агарод сцеражэ
квітнеючая вішня.

Захліпнуся цемрай. Цемра гэта звон.
Дакрануся да тваёй скуры быццам
шукаючы скарбу.

* * *

Пасма тваіх валос дакранулася да
маёй скроні.
Веру, Ты, Божа, мяне ад злога
абароніш!

Ад злога яе барані з яшчэ большай
моцай.
Калі сядзім за сталом пад акном
ночы.

У доўгай такой цішыні ты ломіш
лусту хлеба.
Калі попел ночы сыплецца на
талерку з неба.

Сыплецца на чало, на твае дарагія
далоні.
Ці спаліўся сусвет? Ці гэта ўжо
наша агонія?

*Пераклаў Віктар Швед*

# НАШЫ КАРАНІ

### XCV. Заблудаўскія госці

Мы яшчэ некалькі разоў будзем вяртацца ў Заблудаў і то проста таму, што гэтая мясцовасць у гісторыі нашай духовай культуры займае важнае месца. Сёння затрымаемся на друкарскіх справах, бо гэта ж тут, у Заблудаве, 425 гадоў таму назад 8 ліпеня 1568 года пачаўся друк першай на Падляшшы кнігі.

Тадышні ўладальнік Заблудава, гетман Вялікага княства Літоўскага Рыгор Хадкевіч як чалавек прагрэсіўны, разумеючы вялікае значэнне кнігі ў духовым жыцці народа, у паразуменні з архімандрытам Супрасльскай лаўры Сяргеем Кімбарам ужо ў 1561 годзе высылае манаха Іаакіма Камянчаніна (паходзіў ён, відаць, з Камянца, што каля Белавежы) у Маскву „с листом да и почтенными дарами со златом и бисером и предражайшими камками ко благовернейшему христианскому государю князю Ивану Васильевичу всея Руси" — так падае храніст. А заданне пасланца — гэта здабыць адпаведныя рукапісныя кнігі дзеля іх „в нашем государстве христианском русском Великом княжестве Литовском выдати тиснением печатным нашему народу христианскому русскому литовскому, да и русскому московскому, да и повсюду всем православным христианам..." — пісаў у пасланні маскоўскаму цару Рыгор Хадкевіч. На жаль, пасольства скончылася трагічна, бо Іаакіма Камянчаніна ў Маскве абвінавацілі ў ерасі, і ён памёр у манастырскім астрозе.

Аднак чуткі пра намеры Хадкевіча трапілі да друкароў, якія ў той час дзейнічалі ў Маскве. Перш за ўсё да двух выхадцаў з беларускіх зямель Івана Фёдарава (ён ужываў таксама прозвішча „Федаровіч", што дадаткова пацвярджае яго беларускае паходжанне) і Пятра Мсціслаўца. Фёдараў (Федаровіч) паходзіў з-пад Менска, а Мсціславец — з Мсціслаўля. У 1564-65 гадах яны супольна выдалі „Апостал" і „Часоўнік" — адны з першых друкаваных кніг у Маскве, але з-за праследаванняў перапісчыкамі і самім царом вымушаны былі ўцякаць у Беларусь. Тут іх прыняў у Заблудаве Хадкевіч, даручыў заснаваць на яго сродкі друкарню і яго ж коштам пачаць выпускаць кнігі для патрэб Царквы і насельніцтва. Карыстаючыся багатымі кнігазборамі Супрасльскай лаўры і самога Хадкевіча, дапамогай супрасльскай манаскай брацііі, а яна вылучалася сваёй адукаванасцю, беларускія друкары за час з 8 ліпеня 1568 па 17 сакавіка 1569 гадоў выдалі аграмаднае памерам, бо ў звыш 50 друкаваных аркушаў (816 старонак) *ін фоліё* „Евангелле вучыцельнае". Гэтая кніга ўжывалася ў той час у асноўным як падручнік у навучанні грамаце дзяцей і моладзі. У яе заблудаўскім выданні быў змешчаны першы друкаваны помнік старажытнай беларускай літаратуры „Слова на Ушэсце" Кірылы Тураўскага. Гэтае выданне многа разоў перавыдавалася, яшчэ нават у XIX стагоддзі, яно выдатна прычынілася да павышэння асветы і навучання Закону Божаму ва ўсім славянскім праваслаўным свеце.

Пасля выхаду „Евангелля вучыцельнага" Пётр Мсціславец пераехаў у Вільню і там на сродкі заможных праваслаўных мяшчанаў Мамонічаў заснаваў друкарню, у ёй выдаў „Часоўнік", „Евангелле", „Псалтыр", затым пакінуў Вільню і праўдападобна памёр у Супрасльскай лаўры.

Іван Фёдараў пасля адыходу Мсціслаўца прыняў сабе ў памочнікі маладога і вельмі здольнага разьбяра, заблудавяніна Грыня Івановіча і з яго ўдзелам пачаў 26 чэрвеня 1569 ды закончыў 23 сакавіка 1570 года выданне „Псалтыра" з „Часаслоўцам" — надта важную для дзейнасці праваслаўнай Царквы кнігу. Пасля смерці ў 1572 годзе Рыгора Хадкевіча, Фёдараў з Івановічам падаліся ў Львоў і там заснавалі першую на Украіне друкарню, затым стварылі друкарню ў Астрозе на Валыні — у родавай сядзібе славутага абаронцы праваслаўя, князя Канстанціна Астрожскага. Там, апрача шэрагу іншых кніг, яны выдалі ў 1581 годзе выдатны твор украінскага і агульнаўсходнеславянскага друкавання „Астрожскую біблію", найбольш поўнае выданне Свяшчэннага Пісання на царкоўнаславянскай мове. Памёр Фёдараў у 1583 годзе і пахаваны ў Львове.

Мсціславец і Фёдараў сваёй дзейнасцю ўнеслі велічны ўклад у развіццё праваслаўнай духовай культуры на беларускіх і ўкраінскіх землях.

**Мікола Гайдук**

# Бардак у Н.

Прастытуцыя ў Н. не выклікае асаблівай страсці. Як піццё дэнатурату або збіванне бабы.

— Дае за грошы, бо маладая, — кажа Кастусь М. пра шаснаццацігадовую Ёльку.

Косцік М. ведае, бо мае школу:

— Пастарэе, — пераканаНЫ ён, — то дарма даваць будзе.

* * *

Н. — вёсачка паміж Бугам і Нарвою. Драўляныя хаткі ў двух радах, распітыя мужчыны, такія ж жанчыны і падлеткі.

— Вам то ў Білостоку добрэ, — наракае безнадзейным тонам солтыс з Н. — Той, хто з вёскі ўцёк, то чалавекам зрабіўся. Усе дзяўчаты з Н. у Беластоку. Ганаровыя яны, рэдка ў Н. прыязджаюць.

Солтыс не чуў пра бардак у сваёй вёсцы.

— Я за стары, — смяецца ён. — І бабу сваю маю.

А мне прыпамінаецца прыказка вясковага палітыка: „Мая хата з краю, я нічога не знаю".

* * *

— Ужо два гады будзе, як Ёлька свае грошы мае, — кажа прадаўшчыца.

У вясковым магазіне процьма мужыкоў. У многіх твары апухлыя ад выпіўкі. І апрануты яны дзівачліва — ні то святочна, ні то будзённа.

— У нас то свято яшчэ, — паясняе дзядзька з піўцом „Żubr" у руцэ.

У магазіне пахне алкагольным перагарам і здохлай мышшу. Сёння трэці дзень Каляд. Чырванашчокая прадаўшчыца прыбірае з прылаўка кілішак і кусок каўбасы.

— „Ніву" то мой хлопец са школы прыносіць, — гасіць страх перад чужынцам гаспадар у казаках „Relax".

Мая прысутнасць, дзякуючы яго словам, становіцца акцэптаванай.

— Можа кілішачак радзі свята, — прапануе энтузіяст „Нівы".

У магазіне робіцца святочна. Здаецца, што і лямпкі на ёлцы ззяюць ясней.

— Пётэр, заховуйсе культуральне, — падкладае кулак пад сваю бараду бацька хлапчука, што выпісвае „Ніву".

Згаданы Пётэр так і абарваў расказ, закрашаны, як святочная куцця, матам. „Мароз то х...", — даканчыў ён сваю думку і асавеў. Пётэр — стары кавалер, яму ўжо за трыццаць. Калісь у *кулку ральнічым* трактарыстам працаваў.

— Раскажы, як з Ёлькай ты любіўся, — населі на яго сабутэльнікі. Інтымныя справы гэтага кавалера вядомыя не толькі вяскоўцам, але здаецца ўсёй парафіі. — Расказуй, бо самі раскажам, — не адставалі кампаньёны.

Каб у Пятра развязаўся язык, трэба зафундаваць яму віно „Zorza północy". Экс-трактарыст піва не п'е, бо ад яго толькі нагавіцы мокрыя.

— Раз узяў я бутлю, — пачаў свой аповед перакуплены Пётэр, — і пайшоў туды... Заходжу, паўлітра бах на стол і кажу, што да Ёлькі. Мама і тата Ёлькі радыя, бо ведаюць, што выпіўка зараз будзе. Ад гэтага яны ніколі не адмаўляюцца.

Пётэр распіў з Ёлькай і яе мамай дзве бутэлькі і яшчэ было мала. Бацька зваліўся пасля першай. Рашылі распіць яшчэ адну. Па гарэлку пасталі наймалодшую, Ёльку...



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Пётэр перарваў свой расказ. Прыссаўся да бутлі „Zorzy północy" і адцягнуў з яе добрую палову. Я зразумела, што цяпер наступіць самая драматычная частка аповеду.

— Старая за мяне ўзялася, — прамовіў неяк вінавата апавядальнік. Апаражніўшы да дна віно „Zorza północy" Пётэр закурыў.

— Бо каб не тая паўлітэрка, па якую Ёльку паслалі, то ўцёк бы, — упэўнена заяўляе экс-трактарыст.

— Сэкс то... ого, — уключыўся ў размову Кастусь М., гаспадар.

Кастусь таксама нежанаты, хаця і прафесійную школу ў Беластоку закончыў.

— У мяне на галаве малодшая сястра, хворыя бацькі, жывіна, гаспадарка — пералічваў на пальцах кавалер з Н. Накont гэтых спраў Кастусь асцярожны.

— Я толькі да ўдавіц хаджу. Бо такая баба бяспечная. Не прывядзе дзіцятка, — зноў пералічвае на пальцах Кастусь. Дарма дасць, часам паўлітра паставіць.

Пра *Руздво-Каляды* Кастусь гаварыць не хоча.

— Мароз дзікі быў, — паказвае адмароժаныя рукі кавалер. — Цяпер іх штодзень дэнатуратам шмарую. І што з гаспадаркай будзе?

* * *

Хатка сям'і С. нічым не вылучаецца ў вясковым краявідзе. Панадворак, як і ў большасці жыхароў Н., абгароджаны шчарбатым плотам. Глядзіць на свет чатыры акенцы, сабака на ланцугу. Без дапамогі перакупленых інфарматараў цяжка было б дадумацца, што тут знаходзіцца вясковы бардак.

— У нас жалоба, — вырасла на парозе дзябёлая маладзіца, — калядоўшчыкаў не прымаем!

У Н. калядуюць па святах Трох Каралёў. У магазіне расказвалі, што „ад калядоўшчыкаў ім не адагнацца". Зараз збіраюць на царкву. І тады найлепш з хаты ўцякаць. Бо ж залатоўкі такому не дасі.

Доўга давялося мне ўгаварваць хітрае бабішча, што я не калядоўшчык. У канцы пачула я: „Дасі на бутэльку, пагаворым". Не было рады. Ды і раней мяне павучалі зычлівыя дарадчыкі, што там без бутэлькі няма і чаго заходзіць.

У цеснаватай кухні сустрэла мяне вясёлая кампанія. Крылатыя маты, кіслае паветра, тэлевізар на ўвесь голас стваралі нейкі шалёны настрой. Ёлька сядзела за сталом. У яе зубах, быццам соска, тырчэла папяроса. На першы позірк паказалася яна мне пакрыўджаным лёсам дзяўчом. І да таго малалетнім. Безупынна чухала яна сабе грудзі, калупала ў носе, безупынна рагатала. Так жа паводзіў сябе і Ёльчын татка. Рагатаў ён з усяго, лаяў усіх і ўсё, па-воўчаму завываў святыя калядкі.

— Навошта ёй вучыцца, — тыцнуў пажоўклым пальцам у бок дачкі. — І так дурачкамі памрэм!

Татка Ёлькі чалавек бывалы. На ім сарочка з надпісам „USA", ясныя, інтэлігенцкія нагавічкі і сярэбраныя зубы. Затое дачушка — як плот, шчарбатая ўжо.

— Да навукі яе *паскам* ганяць трэба было, — успомніла ап'янеўшая мамка. — А ў хаце добра, цёпла, весела. Разрыўка ёсць.

І сапраўды, Ёльцы было весела. Калі нехта з сабутэльнікаў лапаў яе за грудзі, рагатала. Як пазней паказалася, гэта быў хросны бацька дзяўчыны.

— Людзі то хай вам пра сваё гора расказваюць, — прапанавала маці Ёлькі. — Вы чулі, як Кастусь на Каляды хворую маці пабіў. А пазней пайшоў на мароз і хацеў замёрзнуць. Лапы сабе памарозіў.

Наступную гадзіну мне давялося слухаць пра няшчасці, пошасці, хваробы. Аж віравала ў галаве ад гэтага шаленства.

— Апошні подых, лебядзіная нотка, — падумалася мне далёка ўжо за Н.

* * *

— Учора то да іх разводнік з Гайнаўкі прыязджаў. За *раз* пяцьсот тысяч кладзе, — кажа сцішаным голасам суседка Ёлькі.

— Можна было б і не пісаць, — разважае Мікола С., сусед. — Але ратунку шукаем. Дзе не заедзеш, пра адзін бардак пытаюць. А як пачнуць ехаць, то *айца* ў вёску прывалакуць яшчэ.

— Бардак то там заўсёды быў, — працягвае сцішаным голасам суседка. — І бабка, і маці, і бацька пра адно думалі і гаварылі. Дурнаватыя ўсе нейкія. Кажуць, што бацька і з жонкай, і з дачкою жыве. Перакаваліся, што дзіцё бяздзетнае, то і гандлююць ім, зарабляюць сабе на гарэлку. І Ёлька ў іх дурнаватая выйшла.

Іншай думкі кавалеры Кастусь і Пётэр.

— Як за дарма тыя бабы давалі, то цішыня была, — кажа Кастусь М. — А як на капіталізм перайшлі, то і крык падняўся.

Кастусь думае, што праблема сама вырашыцца.

— Дае за грошы, бо маладая. Пастарэе, задарма даваць будзе.

У Н. ніхто не гаворыць пра законы і правы чалавека.

— А нешта такое існуе? — пацісне там кожны плячыма.

**Ева СЦЕПАНЮК**

P.S. Імёны герояў зменены.

# Слова ашаламляе

Чытаю я шмат класікі, знаёмы таксама нават і з жывымі пісьменнікамі. Не так у само слова друкаванае веру, але ў эмоцыі аўтара і чытача, якія ствараюць адбітак слова, тону, успаміну і фантазіі ў мазгах і ў сэрцы. Вядома, калі яно ёсць, тое слова, майстэрскае.

Ёсць у Мінску пісьменнік, не зусім яшчэ ў гадах, ужо саноўна закругленыя, нядрэнны празаік, намнога горшы паэт (піша прозу вершам, модна савецкую па форме), які шмат часу аддае творчай моладзі, якая, праўда, досыць часта бунтуецца, але паважае дзядзьку як свайго анёла-ахоўніка, які ўмее знайсці грошы на выданні, і тамсям друкуе творы іх, маладых, замест перці толькі свае опусы ў рознья „Маладосці" („Ой, каб ты ведаў, як хочацца друкавацца, калі табе самому за пяцьдзесят!.."). Ведаючы аб ягонай слабасці да неапераных маладых пачаткоўцаў, пішучы народ завальвае яго лістамі, поўнымі твораў, просьбаў і нават пагроз, што калі ён не пазнаецца на несумненным таленце аўтара, то калі той стане лаўрэатам розных прэмій, то тады вось, пырне пальцам у вочы старому дурню, які кідаў яму былі калоды пад ногі!.. Стары пісьменнік чытае ўсё, а што палічыць хоць добрым, калі не ўжо каштоўным, стараецца кудысьці „ўсадзіць", каб трапіла да чытачоў.

Аднойчы атрымаў пукатую пасылку: пісаныя ўручную і надрукаваныя ў правінцыяльным культурна-грамадскім штотыднёвіку творы. І аж вочы перацёр: аўтар прапанаваў ягонай ацэнцы... падборку, зусім удалую, яго ўласных, старога пісьменніка, твораў! І то з аднаго зборніка апавяданняў! Ну, трапляліся яшчэ і кавалачкі з мафусаіла беларускай прозы, таксама, дзякуй Богу, яшчэ жывога. Не то, што сходныя сюжэты ці героі, але нават поўныя абзацы, разам са створанымі аўтарамі словамі новымі або ўзятымі з гаворак іхніх родных вёсак! Спачатку стары празаік вельмі ж усхадзіўся, валідол паклаў пад язык, брыдкасловіў увесь вечар усім, хто асмеліўся да яго азвацца або патэлефанаваць. Праз тыдзень супакоіўся і напісаў ліст. Вядома, ва ўступных словах падзякаваў свайму карэспандэнту за ўдалае скарыстанне арыгіналаў, але пад канец ліста назваў яго нахабным плагіятарам.

Праз месяц атрымаў ліст, на ружовай паперы, каліграфаваны цудоўным почыркам:

„Вельмішаноўны спадар Алесь Герасімавіч! Вашу кнігу я набыў у кнігарні. Яна ўздзеяла на маю душу так ашаламляльна, так заразіла мяне натхненнем, што, хочучы ці не, паліліся з-пад майго пяра Вашыя цудоўныя словы...

Маю надзею на далейшае плённае супрацоўніцтва. З паклонамі і павагай — ваш адданы

**Ляўко Дарожнік".**

Чамусьці карэспандэнцыя не прадаўжалася. Але ў розных часопісах паявіліся новыя творы паэта і празаіка Ляўкі Дарожніка. Заснаваў ён нават сваю газету, каб мець дзе друкавацца, знайшоў спонсараў, якія вераць у чыюсьці геніяльнасць! У Беларусі некаторыя пішуць пра яго як яшчэ „малавядомага". Ой, не, вядомы ён усім, вядомы! Нявінны ён такі, як дзіця, ці што, альбо абсалютна бесталковы?! Каб хоць спісваў з класікаў, а не з жывых! То ж за такое можна дастаць па мордзе, між іншым!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

 

# З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне

**Змяшчаем фрагменты (цэласць налічвае 35 старонак нармалізаванага машынапісу) артыкула Мікалая Капчука — „истинно русского человека" родам з Мікуліч, што ў Мілейчыцкай гміне. Не можа ён змірыцца з фактам, што сярод беларусаў, якія доўгімі гадамі ўспрымаліся як элемент расейскай этнікі, знайшліся людзі, якія маюць беларускую *нацыянальную* свядомасць.**

**Друкуючы роздумы Мікалая Капчука, не хочам папулярызаваць антыбеларускага нацыяналізму, але ведаем, што прадстаўляе ён погляды аднае з трох плыняў інтэлігенцыі, якая выйшла з беларускага сялянства і стала на службу суседнім народам. Друкавалі мы погляды „нашых хлопцаў", якія сталі палякамі і ўкраінцамі, сёння прадстаўляем разважанні нашага „русского человека". (рэд.)**

**Шаноўны Спадар,**
**Галоўны Рэдактар „Нівы".**

З вялікай увагай прачытаў я надрукаваны ў 33 нумары „Нівы" за 1996 г. Ваш артыкул пад загалоўкам „Рускія беларусы", прысланы мне з апазненнем маімі прыяцелямі, у якім і я з'явіўся адной з актыўна дзеючых асоб. Справа аднак у тым, што падзеі, якія мелі месца ў часы, калі Вы поўзалі яшчэ на карачках, былі Вам насветлены Вашымі інфарматарамі тэндэнцыйна і значна адбягаюць ад праўды і здаровай логікі. Гэта прымушае мяне даць адказ на змешчаныя ў артыкуле паклёпы і справы, нязгодныя з тадышняй рэчаіснасцю.

Мне невядома, якія адкрыцці зрабілі выпускнікі будучага пад Вашым доглядам Белліцэя ў Бельску, былыя члены БГКТ і чытачы Вашай „Нівы" і сляды якіх казакаў знайшлі яны ў раёне Міхалова і ў даліне ракі Нарвы.

Не з'яўляецца таксама праўдай думка, што на Беласточчыне заўсёды пражывалі толькі беларусы і таму ўсе цяперашнія яе жыхары, акрамя палякаў, з'яўляюцца ці павінны быць беларусамі і, прытым, прымітыўнага антырускага, антыукраінскага тыпу.

А Беласточчына была заўсёды многанацыянальнай. Пражывалі тут, апрача палякаў, беларусы, яўрэі, рускія стараверы, татары, а ў раёне Мілейчычаў — нават сербы, якія ўцякалі сюды ад турэцкага тэрору. Кожны гісторык ведае аб тым, што над Бугам пражывалі дулебы і бужане, але не крывічы. Такім чынам, **канстатацыя, што ўсе пражываючыя на Беласточчыне жыхары маюць беларускае паходжанне, пазбаўлена навуковай асновы**. Мне тожа, без маёй згоды, Я. Мірановіч бясспраўна прышыў беларускае паходжанне і таму, па яго думцы, я маю абавязак быць беларусам, прытым, беларусам русафобскага і антыукраінскага ўзору, прымітыўнага менталітэту, не знаючага свайго паходжання і слепа веруючага ў выдуманыя ў заходніх палітычных халоднаваенных кухнях прымітыўныя „гістарычныя" брэдні.

Па-першае: **я з'яўляюся чалавекам** не менш **адукаваным**, чым спадар Галоўны Рэдактар, больш пражыў на свеце і быў сведкам падзей, якія спадар Рэдактар знае толькі з вопісаў, незаўсёды аб'ектыўных; па-другое: сваю нацыянальнасць акрэслівае сам грамадзянін і ніхто не даў права шаноўнаму рэдактару ўмешвацца ў прыватныя справы другіх грамадзян; патрэцяе: **ніякага беларускага паходжання я не маю:** мае продкі паходзілі з паўднёвай Валыні і яшчэ мой дзед у 1929 годзе хадзіў туды пяшком, а яго брат перад першай сусветнай вайной перасяліўся туды назаўсёды; мой дзядзька пражываў у Маскве, а цётка — у Адэсе.

Не адпавядае праўдзе сцвярджэнне, што ў 1957 годзе я выступіў з БГКТ і ўступіў у Рускае Культурна-Асветнае Таварыства, аддзел якога адкрыўся ў Беластоку. У БГКТ я ніколі не ўступаў і ніколі не быў яго членам, таму я не мог выступіць з таго, ва што я ніколі не ўступаў. Я прысутнічаў як госць, і на арганізацыйным з'ездзе Беларускага таварыства, на якім нават выступіў з прамовай па-руску, за што атрымаў самыя бурныя апладысменты. Я напісаў таксама 3 ці 4 артыкулы ў „Ніву", якія былі добра ацэнены, умела пераложаны С. Яновічам на беларускую мову, а я атрымаў за іх належныя ганарары. Але запісацца ў члены тадышняга БГКТ я так і не рашыўся: мяне разілі вельмі нізкі этычна-маральны ўзровень і халуйскі менталітэт некаторых тадышніх яго дзеячаў, іх варожасць да сястрыных таварыстваў — украінскага, рускага, яўрэйскага, літоўскага, пастаянная грызня між сабою, інтрыгі адзін супраць другога і beганне да дзяржаўных установ з паклёпамі на сваіх жа сапляменнікаў і т.п. Многія тадышнія актывісты і члены Таварыства былі неафіцыяльнымі, або нядаўнімі афіцыяльнымі супрацоўнікамі каральных органаў, як напрыклад, тадышні сакратар БГКТ, таму добра ведалі, як такія інтрыгі рабіць. Хаця я быў лаяльным грамадзянінам, то тым не менш, я з агідай глядзеў на беспрынцыпных інтрыганаў, у якіх разбураны маральныя асновы і якія гатовы з халуйскай услужлівасцю тапіць сваіх сапляменнікаў і аднавернікаў.

У пачатку свайго існавання „Ніва" звышэнтузіязна ўсхваляла ўсё, што тварылася тады „у нашай дзяржаве": і спробы прымусовай калектывізацыі беларускіх вёсак (ламжынскіх вёсак ніхто калектывізаваць не прабаваў), і ўцёкі моладзі з вёсак у горад і т.п. Але нейкі Вітальд Астапчук апублікаваў у польскай прэсе антыбеларускі артыкул, у якім абвінавачваў „Ніву" нават у агентуральнасці на карысць Савецкага Саюза. Гэта вельмі перапалохала некаторых тадышніх яе журналістаў, якія ў прыспешаным трыбе запасліся заходнееўрапейскімі выданнямі на беларускай мове, утрыманым і ў духу „халоднай вайны" і рэалізуючымі яе навуковую стратэгію і павярнулі ў другі бок, хаваючы гэта ад радавых членаў БГКТ. На старонках „Нівы" сталі паяўляцца колкія выпадкі супраць украінскага, рускага і літоўскага таварystваў і другія ўстаўкі з так званага „буржуазнага нацыяналізму". Гэту перамену ў палітычнай лініі „Нівы" заўважылі тадышнія кіраўнікі БССР і другі сакратар КП Беларусі Гарбуноў „на мнагалюдным мітынгу ў Мінску" вельмі дрэнна выказаўся аб нацыяналістычнай „Ніве".

Спадар Я. Мірановіч з невядомых прычын з варожасцю піша аб Рускім Культурна-Асветным Таварыстве, аддзел якога паўстаў у 1957 годзе ў Беластоку і прыпісвае гэтаму Таварыству шэраг смяротных грахоў, якіх ён і яго інфарматары не могуць забыць, а менавіта: запрашанне ў Беласток рускамоўных хораў і тэатральных калектываў, вымаганне, каб „Ніва" друкавала артыкулы і на рускай мове, высоўванне прапановы будовы ў Беластоку аддзельнага кінатэатра, у якім дэманстраваліся б толькі савецкія фільмы; арганізацыя рускага тэатра, не прызнаванне патрэбы ізаляцыі беларусаў ад рускай культуры, арганізацыю сваіх кааператываў і т.п. З гэтага відаць, што аўтар артыкула не мае ніякага паняцця аб былым Рускім таварыстве, а яго інфарматары на працягу 40 гадоў нічога не забылі і нічога не навучыліся. А справы выглядалі наступным чынам:

Рускае таварыства было арганізавана з ведама польскіх уладаў, а яго статут быў зацверджаны тымі ж уладамі.

Рускае таварыства і яго друкаваны орган не спявалі дыфірамбаў у пахвалу прымусовай калектывізацыі ці пакідання сваёй зямлі, як рабіла гэта „Ніва", а канцэнтравала сваю дзейнасць на галінах агульна акцэптаваных. Высокаадукаваныя кіраўнікі Рускага таварыства гаварылі сваім членам: „будзьце такімі, якімі хто нарадзіўся — велікаросамі, беларусамі, украінцамі і гэтак выхоўвайце сваіх дзяцей, але будзьце, не знікайце!" Для рэалізацыі свайго галоўнага задання Таварыства супрацоўнічала з ТППР і запрашала ў Польшчу, а ў першую чаргу ў Варшаву і Беласток артыстаў з СССР, прытым не толькі рускіх — як аб гэтым напісаў у сваім артыкуле спадар Галоўны Рэдактар — але і беларускіх, і ўкраінскіх. Многа было на гэтых канцэртах народу, не было відаць там толькі тадышніх рэдактараў „Нівы".

Не з'яўляецца таксама праўдай, што Рускае таварыства і яго інструктар Мікалай Валкавыцкі (не змешваць з асобай тадышняга Галоўнага Рэдактара „Нівы" Юрыя Валкавыцкага) дамагаліся, каб „Ніва" друкавала артыкулы на рускай мове, напісаныя актывістамі гэтага таварыства. Не было ніякай патрэбы друкаваць у „Ніве" артыкулаў на рускай мове, таму што Рускае таварыства мела свой друкаваны орган, які стаяў на больш высокім інтэлектуальным узроўні.

Рускае таварыства вельмі пазітыўна ацэньвала высокую мараль праваслаўя і Царквы і яе немалую ролю ў захаванні духоўных усходнеславянскіх народнасцей. Актывісты таварыства не баяліся хадзіць у царкву. На жаль, тадышніх рэдактараў „Нівы" ў царкве не было відаць. Іх хутчэй можна было пабачыць на баптысцкіх зборах альбо ў касцёле, калі прыязджалі служыць іх вуніяцкія ксяндзы.

У нас, у Польшчы, пасля перавароту ў 1989 годзе ва ўсіх польскіх школах уведзена навучанне англійскай мовы, англійскамоўныя фільмы заваявалі экраны польскіх кінатэатраў, у якіх менш дэманструецца польскіх фільмаў, чым гэта было ў часы ПНР, у вітрынах польскіх магазінаў поўна незразумелых англійскіх надпісаў, у тэлебачанні цяжка паглядзець польскі фільм, у продажы поўна англійскамоўных парнаграфічных стужак, на галоўных вуліцах горада — „sex shopy" і т.п. І ніхто не называе гэтага англізацыяй ці дэмаралізацыяй, а хутчэй усяго „высокімі хрысціянскімі вартасцямі". І ніхто з беларускіх дзеячаў і журналістаў не ходзіць па польскіх дзяржаўных установах і не пратэстуе супраць англізацыі і дэмаралізацыі беларускага насельніцтва, беларускіх дзяцей і моладзі, як рабіла гэта 40 гадоў таму назад група інтрыганаў супраць Рускага таварыства. А цераз некалькі гадоў, калі на Беласточчыне стануць дывізіі НАТО, у Беластоку будуць адкрыты публічныя дамы; па французскаму вопыту, ксёндз высвеніць кожны адкрываемы публічны дом, каб Бог паслаў гэтаму дому шматлікую кліентуру, у дамах гэтых атрымаюць „працу" самыя прыгожыя дочкі Лехістана і здаровыя беларускія дзяўчаты. І кліентура будзе, бо плата ў гэтых установах будзе трохі ніжэйшая чым на захадзе. І амерыканскі чорны салдат, нехрысціянскай нацыянальнасці, будзе належна абслужаны ў гэтай „установе" навучыўшайся „высокай кваліфікацыі" беларускай працаўніцай, чым будуць даказаны „высокія экуменічныя хрысціянскія вартасці". І гэта будзе ўжо вяршыня свабоды і дэмакратыі, чаго не ўмеюць зразумець беларусы з Беларусі з іх прэзідэнтам.

21 верасня прыйшлося мне пабываць у Белавежы, дзе пасля вайны больш за 90% насельніцтва было беларускім. Цяпер у Белавежы не пачуеш беларускага слова, а ў Лясным музеі выстаўлены народныя вырабы пушчанскіх вёсак, беларусаў, аднак каля стэндаў няма надпісаў, што гэта вырабы беларускага насельніцтва. Для кіраўнікоў культурнай палітыкі беларусы тут ніколі не існавалі і не існуюць. Гэтых грозных з'явішчаў не хоча прыкмеціць пан Галоўны Рэдактар „Нівы" таму, што глядзіць ён на свет цераз русафобскія акуляры. Дзе гэтыя „абаронцы" беларусаў, якія лазілі па польскіх дзяржаўных установах і інтрыгавалі супраць Рускага таварыства, чаму яны не пратэставалі і не пратэстуюць супраць такой страшнай дэнацыяналізацыі? У наступным знікнавенні беларусаў ёсць і вялікая частка іх віны!

У гады парушання законнасці і масавых рэпрэсій у Савецкім Саюзе паявілася многа даносчыкаў, якіх у народзе называлі **„стукачамі"**, якія даносілі каральным органам паклёпы на сваіх таварышаў і суседзяў. Калі ўмацавалася ў Польшчы новая ўлада, паявіліся тут у беларускіх вёсках тожа „стукачы", якія сталі пісаць двулікам польскім, намінальна „камуністычным" уладам паклёпы на сваіх спакойных (іншых сярод беларускіх мужыкоў не было) суседзяў. Дык вось, калі ў 1956 годзе ў Беластоку адкрыўся аддзел Рускага таварыства, некаторыя тадышнія беларускія дзеячы, якія ўжо былі „стукачамі", празарліва запасшыся партыйнымі білетамі ПАРП, сталі лазіць па польскіх дзяржаўных і партыйных установах, па „канспіратыўных кватэрах" каральных органаў, з паклёпамі на гэтае Таварыства і дамагацца яго закрыцця, гаворачы і пішучы, што Рускае таварыства будзе „русіфікаваць" беларускае насельніцтва Беласточчыны, адзінымі прадстаўнікамі якога з'яўляюцца толькі яны і, будучы беларускімі камуністамі. Гэтыя „абаронцы" беларусаў перад выдуманай „русіфікацыяй" не цураліся інтрыг супраць Рускага таварыства, таму што ў лік тадышніх беларускіх дзеячаў увайшла некаторая колькасць неафіцыяльных і нядаўніх афіцыяльных супрацоўнікаў каральных органаў, якія добра ведалі, як гэты інтрыгі рабіць. Як правіла, гэтыя „барацьбіты" і „заступнікі" беларусаў і пальцам не варухнулі, каб сваіх дзяцей выхоўваць у духу беларускай культуры і абучаць беларускай мове.

Пры Ваяводскім Камітэце ПАРП існавала т.зв. „Камісія да спраў нацыянальных меншасцей", у якую ўваходзілі прадстаўнікі гэтага Камітэта, Прэзідыума ВРН, а таксама прадстаўнікі дзейнічаючых на Беласточчыне культурна-асветных таварystваў. Рускае таварыства атрымала паведамленне, што 25 красавіка 1957 года адбудзецца пасяджэнне названай камісіі. На пасяджэнне гэтай Камісіі заўсёды хадзіў старшыня Аддзела Рускага таварыства са сваім намеснікам, але гэтым разам на гэтае пасяджэнне ён не пайшоў, а паслаў туды мяне. На пасяджэнне прыбыў таксама прабываючы якраз у Беластоку інструктар Галоўнага праўлення ў Варшаве Мікалай Валкавыцкі. Літоўскія прадстаўнікі расказалі коратка аб дзейнасці Літоўскага таварыства, а з сваіх патрэб прасілі, каб у школах, якія знаходзяцца на тэрыторыі, на якой пражывае літоўскае насельніцтва, павялічыць колькасць урокаў літоўскай мовы і даць літоўцам хоць для касцёла ў Сейнах ксяндза-католіка літоўскай нацыянальнасці. Кіруючы пасяджэннем запрапанаваў выказацца на гэту тэму і ўдзяліў голасу першым беларускім прадстаўнікам. „Odrzucić! To jest przecież Polska!" — громка гаркнулі беларускія дзеячы, з ярай ці напускной варожасцю, нічым больш не матывуючы свайго вета. Літоўскія прадстаўнікі анямелі ад нечаканасці. Прадстаўнікі польскіх уладаў не зналі, што сказаць. Тады папрасіў голасу я і сказаў, што згодна з Канстытуцыяй ПНР, усе грамадзяне нягледзячы на іх веравызнанне і нацыянальнасць, маюць роўныя правы. Таму трэба даць літоўцам усё тое, што даць магчыма. Пасля мяне выступіў Мікалай Валкавыцкі, які ад імя Галоўнага праўлення Рускага таварыства таксама прапанаваў прыхільна выпаўніць просьбы літоўцаў. Ніхто з прадстаўнікоў вета беларускай дэлегацыі не падтрымаў, а намеснік старшыні ВРН Антоні Рошка таксама выказаўся ў пользу літоўцаў. Гэта канчаткова перахіліла шальку вагі і была паўзята пастанова прыняць да выканання просьбы літоўскага таварыства.

Protokół z posiedzenia Komisji KW d/s Narodowościowych odbytego w dniu 25 kwietnia 1957 r., (s. 5).[1]

*Towarzysz Kopczuk: [powiedział] mimo, iż jest Białorusinem jest (także) czł. Zarządu Rosyjskiego [Towarzystwa] dlatego, że narody Rosyjski, Białoruski i Ukraiński wywodzą się z jednego wielkorosyjskiego narodu (...).*

*Wystąpił z Towarzystwa Białoruskiego dlatego, że w BTSK istnieje nacjonalizm wobec Związku Radzieckiego. Towarzysz Matejczyk, członek BTSK powiedział, że takich którzy agitują za przyjaźnią z ZSRR należy wieszać na słupach.*[2]

1. Паводле гэтага пратаколу са сходу Камісіі ні таварыш Капчук, ні таварыш Валкавыцкі і ніхто з беларускіх дзеячаў не бралі голасу ў справе літоўскага школьніцтва.

2. Дэфініцыю „стукача" чытай побач.

На тым бы пасяджэнне і закончылася. Аднак беларускія прадстаўнікі не ўзялі пад увагу таго, што яны тут лозунгамі з арсенала ультраправых сіл нічога не ўскураюць і ў „свабодных прапановах" унеслі скаргу, што Рускае таварыства адбівае ім членаў і русіфікуе беларусаў. Тады голас узяў я і адказаў, што Рускае таварыства нікога не русіфікуе і магчымасці такой не мае, рускай нацыянальнасці сваім членам не навязвае, а членамі Рускага таварыства з'яўляюцца і шматлікія адукаваныя палякі. Я меў якраз пры сабе „Гісторыю БССР", з якой прачытаў фрагменты, што пішуць беларускія вучоныя аб беларускім нацыяналізме і русафобіі, выдуманымі халоднаваеннымі кругамі на Захадзе для сеяння варожасці паміж рускім, беларускім і ўкраінскім народамі.

Ад гэтых часоў мінае саракавы год. Ужо змянілася палажэнне ў свеце, а барацьбіты супраць Рускага і Літоўскага таварystваў не могуць перахварэць паражэння, якое пацярпелі яны на пасяджэнні Нацыянальнай камісіі 25 красавіка 1957 года, што характэрна толькі для вельмі прымітыўных мсцівых людзей. Разумеецца, ні я, ні Мікалай Валкавыцкі не былі першачарговымі актывістамі Рускага таварыства, бо пасты гэты занімалі старшыя і больш вопытныя дзеячы, аднак у вачах пацярпеўшых паражэнне на векапомным пасяджэнні мы паказаліся ім самымі актыўнымі. Гэта зразумела і ў прыродзе, таму што для мышэй самым актыўным і магутным зверам выдаецца кот.

Палажэнне беларусаў, як і ўсіх другіх нацыянальных меншасцей у Польшчы, вельмі цяжкае, хоць з юрыдычнага пункту гледжання, усё з'яўляецца ў парадку. Яны не могуць размаўляць па-свойму на вуліцы, каб не атрымаць рэпрыменды і ўгрозы, каб памяталі ў якой дзяржаве жывуць; баяцца размаўляць на сваёй мове і ў сваёй кватэры, каб не пачулі суседзі за сцяной; не могуць вучыць дзяцей сваёй мовы, бо дзіця можа прагаварыцца на вуліцы ці ў школе; баяцца даваць дзецям сваім праваслаўныя імёны, каб ахаваць дзіця ад дыскрымінацыі ў далейшым жыцці; некаторыя дарослыя мяняюць свае няпольскія прозвішчы, бо яны перашкаджаюць ім заняць больш высокія пасты ў бізнесе. У апошнія часы ўжо баяцца нават напісаць кірыліцай імёны і прозвішчы на надмагільных крыжах умерших, хаваных на праваслаўных могілках.

Нягледзячы на такое крытычнае палажэнне, не забракне некаторага тыпу людзікаў, якія назвуць сябе „дзеячамі" і за марныя грошы гатовы будуць выступіць перад камерамі тэлебачання і на цэлы свет сказаць, як ім цудоўна жывецца ў Польшчы і як нецудоўна будзе жыць неразумным беларусам у Беларусі пад кіраўніцтвам русафільскага прэзідэнта, якога гэтыя беларусы сабе выбралі.

Я разумею спадара Галоўнага Рэдактара, што ён, згодна з прыказкай, абавязаны спяваць песню таму, на чыім возе едзе і ад каго грошы атрымлівае на сваё існаванне. Але песню можна падабраць меладыйную і спяваць яе не ахрыплым голасам так, каб яна радавала і вушы пана, але і не рэзала вушэй акружэння і адначасова не ставіла спевака ў ролі прыслужніка і не падрывала годнасці таго народа, які ён на словах прадстаўляе.

**Мікалай КАПЧУК**

**Ад рэдактара:** Падставай для напісання артыкула „Рускія беларусы" паслужылі выключна пратаколы і стэнаграмы з пасяджэнняў Камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры Цэнтральным і Ваяводскім камітэтах ПАРП.

**Яўген МІРАНОВІЧ**



 

# Позірк у мінулае

**27 студзеня**

1571 г. — нар. Абас І Вялікі, персідскі шах.

Пры шаху Абасе І Персія перажывала адзін з найлепшых перыядаў у сваёй гісторыі. Шах стварыў рэгулярную армію, асноўнай сілай якой была конніца — гулямы. У гулямы набіраліся хрысціянскія дзеці (пераважна грузінскія і армянскія), якіх пераводзілі ў мусульманства і выхоўвалі ў крайне фанатычным духу. Гулямы ад турэцкіх янычараў розніліся толькі тым, што былі коннікамі, калі янычары — пехацінцамі. У армію, з дапамогай англійскіх інструктараў, была ўведзена агнястрэльная зброя і артылерыя. Абас падпарадкаваў сабе Грузію, Арменію, Месапатамію, Шырван (цяперашні Азербайджан), Харасан і часць Афганістана. Шах спрыяў развіццю гандлю: ладзіліся старыя і пракладваліся новыя караванныя дарогі, якія забяспечваліся перад рабаўнікамі, будаваліся караван-сараі, даводзілася вада. Персія ўтрымоўвала гандлёвыя сувязі з Партугаліяй, Англіяй, Кітаем, Індыяй. Абас перанёс сталіцу з Тэбрыза ў Ісфахан, які разросся ў агромны паўмільённы горад.

**28 студзеня**

У гэты дзень Царква адзначае памяць Яфрэма Сірына.

Яфрэм Сірын, якога называлі сірыйскім пракорам, жыў у IV стагоддзі (памёр у 373 г.). Яго творчасць гэта пераважна пропаведзі і рэлігійныя павучэнні, а таксама вершы для сольнага выканання ў суправаджэнні хора. У Эдэсе, дзе правёў апошнія гады свайго жыцця, заснаваў літаратурна-тэалагічную школу. Яго творы перакладаліся на армянскую, грэчаскую, лацінскую і арабскую мовы.

**29 студзеня**

1492 г. — іспанскі кароль Фердынанд II здабыў Гранаду, завяршаючы гэтым Рэканкісту.

У 711—714 гг. арабы заваявалі амаль увесь Пірэнейскі паўвостраў, апрача Астурыі. Каралеўства Астурыі да IX ст. расшырыла сваю тэрыторыю на ўсю паўночна-заходнюю частку паўвострава, а ў X ст. заняло горад Леон і прыняло назву Каралеўства Леон, расшыраючы ў пачатку XI ст. уладанні далей на поўдзень — на Кастылію, а ў 1085 г. адбіваючы ад арабаў Таледа, ранейшую сталіцу візіготаў. На паўночным усходзе паўвострава ўзнікла Арагонскае каралеўства, якое ў 1118 г. адбіла ад арабаў Сарагосу, стаўшую яго сталіцай. На захадзе ў 1116 г. узнікла каралеўства Партугаліі са сталіцай у Порта, перанесенай у 1147 г. у Лісабон. З найбольшай сілай Рэканкіста праходзіла ў XIII стагоддзі: у 1236 г. кастыльцы занялі Кордаву і ў 1248 г. — Севілью, а арагонцы ў 40-я гады Валенсію і Балеарскія астравы. За арабамі астаўся тады толькі Гранадскі эмірат.

**1 лютага**

У гэты дзень ушаноўваецца памяць св. Брыгіды, патронкі Ірландыі. Нарадзілася каля 453 г.; бацька яе быў вяльможам, маці — рабыняй. Славілася сваёй прыгажосцю, аднак, калі бацька захацеў выдаць яе замуж — адмовіла. З-за яе вялікай набожнасці дазволена было ёй адысці ад бацькі і стаць манашкай. Заснавала яна чатыры манастыры. Дзякуючы яе здольнасцям і ахвярнасці лічыцца, разам з Патрыкам і Калумбам, адной з траіх патронаў Ірландыі; ушаноўваецца таксама ў Англіі і Шатландыі. Лічыцца апякункай дзяцей і парадух. **(Ш)**

# Парнасік

## Зіма — студзень

Зіма — студзень,
Для многіх *прастудзен.*
Кашляем, смаркаем
І шапкі не знімаем.
Здаецца, цёпла апранаемся
І ўначы пярынай накрываемся,
Ды студзень нас хапае
І зіму праслаўляе.
Відаць, ён не любіць „сонных",
Толькі сваіх верных родных.
Хто марозу не баіцца
Можа адважна з ім біцца.
Некаторых можа ахапіць „грыпа",
Хаця можна пачуць: „гэта ліпа".
Бо калі прыкуе да ложка,
У гарачцы ўсё цела і ножка.
Хворы заціхне
І слова не пікне.
Геройствы прапалі
І сілы апалі.
Лечыцца і ляжыць пад пярынай
Сам, без Марыны.
І мо студзень стане паважаць,
А зіму разважаць.

**Мікалай Панфілюк**

## Салдацкае каханне

Белая бяроза ў полі расла,
недалёка дзяўчына карову пасвіла.

Карову пасвіла і песню спявала,
песню спявала і слёзы пралівала.

Словы гэтай песні жаласны былі,
таму ў дзяўчыны слёзы пацяклі.

Слёзы ліліся, яна ўцірала
і свайго каханага яна ўспамінала.

Успамінала бярозу і зялёны
лісточкі,
як каханы ўціраў заплаканы вочкі.

Седзячы пры мне ён ціха сказаў,
што ніводнае дзеўкі яшчэ не кахаў.

Мая ты кахана, табе прызнаўся,
што я аж да смерці ў табе закахаўся.

Мой каханенькі ў войска пайшоў,
напэўна другую дзяўчыну найшоў.

Год прайшоў як у войску служыць,
пэўна да сябе другую галубіць.

Я вельмі часта яго ўспамінаю
і кожны дзень пісьма чакаю.

Мне розныя думкі ў галаву
прыходзяць,
часам да шалу яны даводзяць.

Пісаць пісьмо ён часу не мае
хто ў войску не быў, таго не знае.

Як жа цяжка ў войску служыць,
а яшчэ цяжэй дзяўчыну забыць.

Тую дзяўчыну, што ў ёй закахаўся,
яна мне, а я ёй спадабаўся.

Свайго каханага ўспамінаць я буду
і навекі яго ніколі не забуду.

Хто не пражываў, той не знае
якое значэнне каханне мае.

**Мікалай Пучко**

## Новыя гаспадары

Пераняў маю гаспадарку хітруны.
Ораб, ляшчыны, гажыны і маліны
выкарчоўваюць яны.
Мне злосна паўтараюць,
Што грошы і без гэтага маюць.
А цікава ці ёсць яшчэ
на „Нандатках" крыніца?
У ёй была жыватворная вадзіца.
Мой бацька з яе воду піў.
Усіх сяброў ён пережыў.

**Мар'я Пень**

## Вось якая справа

Вось якая стала справа:
Ішлі ўлева, цяпер — ўправа.
Скуру трэба так змяніць,
Каб ўсім навокал дагадзіць.
Каб самому мець выгоду,
Адрачыся трэба роду.
Калі добра падлізацца,
Усе стануць радавацца.
Вось якімі людзі сталі,
Ўсе законы памянялі.
Быў чырвоны, цяпер — белы,
На яго няма халеры.
Стаў іначай танцаваць,
Сталі людзі паважаць.
Пляшчуць яму у далоні,
Забыўшыся, што ён — чырвоны.

**Мілалай Лук'янюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. дзяржава на ўсходзе Афрыкі, 7. хворы лунацізмам, 8. дзяржава з Рыгай, 9. артылерыйскае падраздзяленне, 10. драпежная птушка, 14. боскі напітак, 18. інструментальны ансамбль, 19. порт на поўдні Афрыкі, 20. штат у ЗША: 21. машына для апрацоўкі матэрыялаў.

**Вертыкальна:** 1. горад між Гомелем і Бабруйскам, 2. знаўца, чалавек з ведамі, 3. стог сена або саломы, 4. верхавадка, 5. хімічны элемент н-р 85, 6. нешта незвычайнае, 11. старажытнагрэчаскі філосаф, 12. герой паэмы Пушкіна, 13. невялікае паравое судна, 15. член аднаго з каталіцкіх ордэнаў, 16. статак коней, 17. пачатак дня.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 49 н-ра:

**Гарызантальна:** снег, казах, рэльеф, Одра, чуваш, нутрыя, Касандра, туман, кандыдат, кавардак, ікона, спадніца, распад, ануча, веча, даярка, попел, рука.

**Вертыкальна:** Мапуту, талака, надбаўка, гранд, пліта, метыс, шантрапа, урадніца, такт, мова, ядро, Этна, акуньчык, кантон, начлег, табар, спорт, адвар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, дала я табе крыху адпачыць ад маіх сноў, але ж прысніласа мне ізноў нешта дзіўнае ды і страшнавата стала. Прашу, разгадай мой сон. Дзея адбываецца ў вялікай зале, на прадпрыемстве, дзе я калісь працавала. Прыём ці проста гасціна там адбываецца. Я прыйшла са сваім мужам (ён ужо не жыве). Селі мы за стол. Каля нас села яго супрацоўніца са сваім мужам (ён таксама ўжо не жыве). Прыйшло многа моладзі. Уваходзіць нейкая бландзінка, апранутая ў белую вопратку, ды кажа: „Рыхтуйцеся на касцельны баль. Але я сама выберу, хто пойдзе". Пачала ад моладзі. Потым падышла да гэтай пары, што сядзела каля нас, і сказала: „Вы пойдзеце абое!" Падышла да нас і звяртаецца да майго мужа: „Ты пойдзеш!", а да мяне: „Ты цяпер не пойдзеш! Пачакай яшчэ". І даю табе загад: „Усё гэта прыбяры!" Я глянула на падлогу, а там саломы поўна. На стале суседкі жэле ў місачках стаіць. Я падумала, што гэтага жэле я прыбіраць не буду. Хай яны прыйдуць і з'ядуць яго. Забяру толькі салому. Разглянулася па зале. Апусцела яна. Засталося толькі некалькі пар маладых і я. Пачала я прыбіраць і прачнулася.

А маёй суседцы снілася, што яна ела варанае мяса. Было яно ў вялікіх кусках, светлага колеру.

**Кацярына**

Кацярына! Твой сон гаворыць аб тым, што вакол цябе ёсць нейкая злосць, зайздрасць і нянавісць. Але напэўна ў тваім жыцці адбудуцца нейкія перамены. У сувязі з гэтым ёсць надзея, што мо будзе лепш.

Што датычыцца сну тваёй суседкі, дык у яе ўсё будзе добра, бо ў сне яна ела варанае мяса, а не сырое, якое б магло прадвяшчаць хваробу і смутак.

**Астрон**





**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

# Пародыі

**Думка думку паганяе**

*Прадуманую думку*
*у кішэнь хаваю*
*за пазуху адкладваю*
*спатрэбіцца...*

*Юрка Баена*

Думаў, думаў, думаў,
І прыдумаў думку.
З галавы дастаў я
І паклаў у сумку.
Ў сумцы праляжала
Доўга мая думка,
Душа іншай стала,
Парвалася сумка.
Хуценька дастаў я
З сумкі сваю думку,
І паклаў ў кішэню,
Як галодны булку.
Кожны дзень на працу
Думку я прыносіў,
Сталі ўсе пытацца:
— Што ў кішэні носіш?
За пазуху думку,
Як дастаў з кішэні,
Я засунуў хутка,
Стаўшы на калені.
Пранасіў я тыдзень —
Закалола сэрца...
У трусы паклаў я —
Тут і застанецца!

**Сяргей Чыгрын**

# Прыстасаванец

Даўно па правілу ён жыў:
З начальствам будзь авечкай,
Сказалі — дык ламаў крыжы,
Цяпер стаіць са свечкай.

І калі новы хтось яму
Дасць новае ўказанне, —
Заменіць кепку на чалму
Ці зробіць абразанне.

**Аляксей Каўко**

# Радкі з клічнікам

Лавіна!
Нічога, я пад парасонам.

* * *

Крывавы паядынак!
Дык гэта ж красамоўнае выступленне двух джэнтльменаў.

* * *

Глядзі!
Перавышаеш хуткасць, — сказаў слімак да чарапахі.

**Барыс Руско**




*Вось табе і камфорт!* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# З „Дзённікаў” Максіма Танка

**У 1960 годзе Максім Танк уваходзіў у склад дэлегацыі СССР на 15-ю сесію Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якую ўзначальваў Мікіта Хрушчоў. У нататках з марскога падарожжа з Калінінграда ў Нью-Йорк і пабыўкі на амерыканскай зямлі аўтар „Дзённікаў” змясціў нямала гумарыстычных сюжэтаў. А вось некаторыя з іх:**

* * *

**9.IX.** А вецер усё мацнеў, рэзка гайдаючы корпус парахода. Недзе паляцелі талеркі, нешта разбілася. Некаторыя з дэлегатаў пайшлі па аэрон (лякарства ад марской хваробы — рэд.). Але і ён ужо не памагаў. Не ўсе змаглі вытрымаць да канца вячэры. За сталамі віднелася шмат пустых месц. Засталіся толькі найбольш вынослівыя, у тым ліку і члены нашай беларускай дэлегацыі. Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў жартаваў з украінскіх сяброў:

— Не вытрымалі. А яшчэ марская дзяржава!

* * *

**13.IX.** Вось і сягоння: раніцой было досыць спакойна, а пад вечар разгуляўся сямібальны шторм. (...) Не дзіва, што вячэраць шмат хто не змог прыйсці.

Калі мы селі за стол, Мікіта Сяргеевіч запытаў:

— А як там маюцца беларусы?

— Добра! — адказалі мы.

— Відаць, трэба сёння ўзяць усім па чарцы каньяку, каб адчуваць сябе лепш.

* * *

**16.IX.** Падчас снедання Мікіта Сяргеевіч раіцца з тт. Я. Кадарам, Т. Жыўкавым, Г. Георгіу-Дэж і іншымі таварышамі, калі лепш нам перабрацца на сухазем'е: ці 18, калі прыбудзе наша „Балтыка” ў Нью-Йорк, ці 19 раніцай. І тут жа, калі загаварылі аб выбарах прэзідэнта ў ЗША і аб магчымай сустрэчы з Эйзенхаўэрам, Мікіта Сяргеевіч з уласцівым яму гумарам адказаў:

— Я люблю сустракацца на хрэсьбінах і вяселлях, а не на памінках... — Потым падышоў да стала, за якім сядзела група журналістаў, і, смеючыся, сказаў: — Трэба праверыць, што яны п'юць. Мо ў бутэльках з-пад баржому (лекавая мінеральная вада — рэд.) — гарэлка?..

*(заканчэнне будзе)*

**(„Полымя” № 10 за 1996 г.)**

# „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Госць рэстарана афіцыянту:

— Кумпяк ёсць?

— Няма.

— А адбіўныя катлеты?

— Няма.

— А яешня?

— Няма.

— У такім выпадку падайце мне мой плашч!

Афіцыянт пaглядае на вешалку і адказвае:

— Прыкра мне, але вашага плашча таксама ўжо няма.

* * *

— Дзе ж ты так доўга быў?! — злуецца жонка на ўваходзячага мужа.

— Гуляў у шашкі.

— А чаму ад цябе пахне каньяком?

— А ты хацела б, каб пахла шашкамі?!

* * *

Кожная жанчына мае прынамсі пяць мужчын: мужа, якому нічога не расказвае і нічога не паказвае; каханка, якому ўсё паказвае і нічога не расказвае; сябра, якому ўсё расказвае але нічога не паказвае; гінеколага, якому ўсё расказвае і ўсё паказвае; начальніка — па жаданню.

* * *

Дырэктар рашыў звольніць сакратарку.

— Сустрэў я яе на вуліцы, як валакла пакупкі, — расказвае сябру. — Не выпадала, каб не памагчы. Я занёс тыя пакупкі да яе дому і яна, удзячная, запрапанавала мне чай.

— І што ў гэтым дрэннага?

— Слухай далей. Пайшла парыць чай і па хвіліне паклікала мяне ў пакой. Увайшоўшы, пабачыў я там багата застаўлены стол, а за сталом маіх працаўнікоў, жадаючых усяго найлепшага з нагоды дня нараджэння...

— Гэта цудоўна!

— Ды ты ўяві сабе, як я выглядаў, калі туды ўвайшоў...

* * *

На лавачцы ў парку сядзяць закаханыя. Дзяўчына настаўляе хлопцу шчаку:

— Штосьці мне тут баліць...

Ён пацалаваў і пытае:

— Цяпер не баліць?

— Не, але цяпер тут, за вушкам, баліць.

Пацалаваў за вушкам:

— А цяпер не баліць?

З суседняй лавачкі адзываецца дзядуля:

— А вы, малады чалавек, можа ад гемарою лечыце?

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 15 гадоў, я вучуся ў восьмым класе. Калі мае бацькі развяліся, суд падзяліў дзяцей так, што малодшая сястра прыпала маці, а я — бацьку. Пра бацьку я кепскага слова сказаць не магу: апекаваўся мною так добра, як толькі мог гэта рабіць мужчына. Зрэшты, нават не ўяўляў сабе жыцця без дзяцей, а мама згадзілася аддаць мяне яму на выхаванне.

Мама мая хутчэй за бацьку выйшла другі раз замуж, а пасля ажаніўся і бацька. Трэба сказаць, што яго другая жонка дбае пра мяне. У яе сваіх дзяцей няма.

Летам мінулага года яна сказала, што добра было б, каб я паехала на вёску да яе бацькоў. Там ёсць возера, лес, поўна моладзі з'едзецца са школ на лета, дык будзе весела.

Ну, і я паехала. Нават спачатку мне не вельмі хацелася туды ехаць. Думала, сумна будзе. Лепш было б можа з моладдзю, у нейкім лагеры. Але бацька пераканаў мяне, што так будзе лепш.

Я не лічыла, што там будзе столькі маладых. Хлопцаў было, як кажуць, „на пучкі”. Выбірай якога хочаш. Штодзень вечарам была забава, удзень мы купаліся, загаралі, каталіся на лодках.

Але найлепш мне было ў кампаніі брата маёй мачыхі і яго сябра-аднагодка. Праўда, яны былі значна старэйшыя за мяне, але гэта не мела для мяне значэння.

А найлепш я любіла з сваім нібы дзядзькам (яму дваццаць пяць гадоў) катацца на яго матацыкле. Я зусім не баялася, адчувала сябе ўпэўнена, калі сядала ззаду і трымалася за яго, абнімаючы рукамі. Здаецца, якраз у такім моманце я адчула, як нешта ёкнула ў маім сэрцы і ўжо не адышло. Я закахалася ў яго безнадзейна і горка.

Справа ў тым, што ў гэтага майго „дзядзькі” была дзяўчына, з якою ён хадзіў „па-дарасламу”. Удзень яна працавала, а ён быў у водпуску, дык меў больш часу бываць з маладымі. Але на вечар ён прападаў. Быў у яе і праводзіў там цэлыя ночы.

Дарагое Сэрцайка, ты не ўяўляеш, як цяжка было мне, калі ён выходзіў нанач. Я ціхенька плакала ў сваім пакоі, які быў калісьці пакоем маёй мачыхі. А найгорш, што ўдзень ён быў вельмі мілы ў адносінах да мяне. Любіў мяне абняць, прытуліць.

Калісьці ў іхняй хаце была гасціна. Далі крыху выпіць і мне. А гарэлка зусім мяне прыбіла. Слёзы так і пырснулі з маіх вачэй. Я выбегла хутка з залы і пабегла ў свой пакой. Ён прыйшоў за мною, пытаў, чаго я плачу, гладзіў мяне па валасах, туліў, а пасля пацалаваў мяне ў шчаку.

Я раўла, як бабёр, ніяк не магла ўстрымацца ад плачу, а яго пяшчоты яшчэ больш паглыбілі маю роспач. Не магла ж я яму сказаць, што кахаю яго, што нікога іншага не хачу і толькі яго бачу як свайго будучага мужа. А ён ходзіць да іншай і кахаецца з ёю па начах...

Найгорш, што мае пачуцці заўважылі дзед і баба, ды замужняя сястра маёй мачыхі. Мне было балюча і сорамна, але я не магла нічога зрабіць з гэтым пачуццём.

Калі пачалася школа, я думала, што можа мне гэта пройдзе, але нічога не выходзіць. На зімовыя канікулы ізноў збіраюся да іх, мачыха задаволеная, што мне там спадабалася. Але мяне цяпер цягне туды зусім па іншай прычыне.

Што рабіць, ён жа напэўна надалей ходзіць да тае сваёй 24-гадовай „паненкі”, а я толькі буду дарма слёзы праліваць.

**Ленка**

Ленка! Дык мо не варта і ехаць?! Сапраўды, перад табой яшчэ столькі вучобы, спраў для маладых, а яму ўжо пара жаніцца. Так што супольных спраў у вас мала.

Цябе зафасцынаваў ён, бо было лета, сонца, матацыкл, дарослы мужчына побач. Але ж ты і сама бачыш, што даросламу дарослае ў галаве. І не думаю, каб ён у даны момант змяніў свае намеры.

**Сэрцайка**